

# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

25 КАСТРЫЧНІКА 2002 г. № 42/4176 КОШТ 322 РУБ




**3**

**"Ад прыдуркаў да наменклатурнай шалупені", альбо Чаму мы гэтак моцна не любім саміх сябе!!**
*Артыкул Раісы БАРАВІКОВАЙ*



**5**

*Леанід ДАЙНЕКА:*
**"Неабходна пазбаўляцца ад слязлівага песімізму, ад адчування катастрафічнасці. Ёсць суверэнная дзяржава, на гербе якой беларускаю моваю выдрукавана: "Рэспубліка Беларусь".**



**8**

**"Эміграцыя"** —
*новая паэма Алеся БАДАКА*

## БУДЗЬМА РАЗАМ У ЧАЦВЁРТЫМ КВАРТАЛЕ 2002 ГОДА!

*Шаноўныя чытачы! Падпіска на "ЛіМ" працягваецца. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1950 рублёў.*
**Індывідуальны індэкс — 63856.**
*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 3500 рублёў, на тры — 10500 рублёў.*
**Ведамасны індэкс — 63857.**

**«ЛіМ» ЗАЙМЕЎ ЭЛЕКТРОННЫ АДРАС. ПІШЫЦЕ ЛІСТЫ! GAZETA_LIM@TUT. BY**

**Сезон Андрэя ПАНАЧЭЎНАГА... Бліскучае выступленне на XII Міжнародным конкурсе імя Чайкоўскага ў Маскве, увянчанае званнем лаўрэата. Пачэсным, але далёка не адзіным ганаровым званнем нашага піяніста, чый талент адзначаны прэстыжнымі ўзнагародамі амаль дзесятка міжнародных конкурсаў у розных краінах — ад Польшчы да ЗША. І новае званне: "Мінчанін года-2002". А яшчэ — выступленне на адкрыцці ў Мінску 65-га канцэртнага сезона і ўдзел у першай восеньскай праграме філарманічнай "Гасцёўні". У лістападзе Андрэя Паначэўнага запрашаюць выступіць на "Рускіх сезонах" у Парыжы. Плануецца і паездка на Украіну — да Дзён культуры Беларусі. А пакуль — гастрольныя будні саліста філармоніі: Ліда, Гродна, Беразіно, Валожын. Публіка, часам далёка не "лепшая ў свеце", залы, часам зусім не прыдатныя для сур'ёзных канцэртаў. Сезон кантрастаў...**

**С.Б.**

**Фота Кастуся ДРОБАВА**

## КОЛА ДЗЁН

**21 кастрычніка прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Генадзь Навіцкі наведаў будаўнічую пляцоўку новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі. Згодна з намечаным планам месца пад катлаван ужо вызвалена. Да 1 лістапада павінна быць усё гатова для пачатку работы будаўнікоў у дзве змены. Будаўніцтва плануецца завяршыць на два месяцы раней, да 1 ліпеня 2005 года.**

### *ЛІЧБА ТЫДНЯ*

За мінулыя 10 гадоў, а дакладней за гады незалежнасці, нашай краіне па лініі ААН было выдзелена 50 мільёнаў долараў дапамогі. Да ўсяго, пры дапамозе ААН міжнародныя фінансавыя структуры выдзялілі Беларусі каля 450 мільёнаў долараў.

### *ДАКОПКІ ТЫДНЯ*

У нашай краіне цалкам закончылася ўборка "другога хлеба". Накапана больш 560 тысяч тон клубняў. Ураджайнасць у сярэднім склала 97,5 цэнтнера з гектара. Сярод абласцей у лідэрах па ўраджайнасці Гродзеншчына, Міншчына і Брэстчына — адпаведна 125,5, 105 і 102,7 цэнтнера з гектара. Калі параўнаць сёлетнюю ўраджайнасць з мінулагоднім, то гэтыя лічбы слабаватыя. Аднак, калі ўспомніць засушлівае лета, то і за такі ўраджай трэба дзякаваць...

### *ПРАПАНОВА ТЫДНЯ*

Міністэрства эканомікі атрымала ад Нацыянальнага банка прапанову аб спыненні выкарыстання дробных грашовых купюр. Услед за "зайчыкамі" і іншымі грашовымі звярамі ў гісторыю нашай валюты павінны адысці купюры з выявамі будынка Нацыянальнай акадэміі навук, Траецкага прадмесця, і, магчыма, Нацыянальнай бібліятэкі. На вырашэнне лёсу рублёў, пяцёрак і дзесятак у Мінэканомікі ёсць месяц.

### *РОСТ ТЫДНЯ*

У пачатку кастрычніка ў якасці беспрацоўных у нашай краіне зарэгістравана 127,1 тыс. чалавек, або 2,9 працэнта эканамічна актыўнага насельніцтва. У параўнанні са студзенем колькасць грамадзян, што знаходзяцца на ўліку ў службах занятасці, узрасла амаль на 25 тысяч. Няслаба...

### *КЛОПАТ ТЫДНЯ*

Рост расходаў на выплату заработнай платы, пенсій, стыпендый, будаўніцтва сацыяльна значных аб'ектаў прывялі да змянення існуючай структуры бюджэту 2002 года. У выніку да канца года немагчыма ў поўным аб'ёме прафінансаваць бюджэтныя ўстановы, выдзеліць неабходныя сродкі на капітальныя ўкладанні. Аб удакладненні асобных паказчыкаў бюджэту нашай краіны на 2002 год, па размеркаванні артыкулаў яго расходаў ішла размова на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў. Для пераадолення дэфіцыту бюджэту можна атрымаць дадаткова даходаў на 245 мільярдаў рублёў. Мяркуецца павялічыць і расходы, якія складуць 344 мільярды рублёў. Каб уклсціся ў мяркуемую суму, прыйдзецца зменшыць расходы па некаторых артыкулах. Па прапанове старшыні Нацыянальнага банка, дадатковыя грошы можна атрымаць ад знешніх і ўнутраных банкаўскіх крэдытаў, тым больш што невысокі ўзровень дзяржаўнага знешняга доўгу дазваляе гэта зрабіць.

### *ПЕРАЛІК ТЫДНЯ*

Урадам нашай краіны зацверджаны Пералік платных паслуг, якія могуць аказвацца дзяржаўнымі ўстановамі адукацыі. Згодна з зацверджаным дакументам, на платнай аснове дазваляецца ажыццяўляць падрыхтоўку спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, бакалаўраў, майстроў і навуковых кадраў вышэйшай кваліфікацыі, за выключэннем асоб, што навучаюцца на бюджэтнай аснове; падрыхтоўку спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй па дадатковай спецыяльнасці; падрыхтоўку па асобных сертыфікаваных курсах вышэйшай адукацыі звыш навучальнага плана; перападрыхтоўку і павышэнне кваліфікацыі спецыялістаў і г.д. У пералік платных паслуг, што могуць аказвацца ўстановамі адукацыі, увайшлі таксама навучанне на падрыхтоўчых аддзяленнях ВНУ і арганізацыя выніковай атэстацыі для тых студэнтаў, якія не здалі дзяржаўныя іспыты ці не абаранілі дыпломны праект ва ўстаноўленыя навучальным планам тэрміны.

### *ПАСЯДЖЭННЕ ТЫДНЯ*

На першым сумесным пасяджэнні Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Мінгарвыканкама было прынята рашэнне аб утварэнні ў Мінску музея горада. Да ўсяго, на пасяджэнні былі разгледжаны пытанні развіцця культуры і мастацтва ў Мінску і дасягнута дамоўленасць аб пошуку месца ў цэнтры горада для алеі Славы, якая будзе ўяўляць з сябе шэраг мармуровых пліт з імёнамі вядомых дзеячаў навукі, культуры і мастацтва нашай краіны.

### *ПАРТНЁРЫ ТЫДНЯ*

Асноўным пастаўшчыком прыродных алмазаў у нашу краіну, і, у прыватнасці, у РУП "Гомельскае вытворчае аб'яднанне "Крышталь" з'яўляецца Расія. Аднак, апошнім часам паступленне каштоўнай сыравіны ад нашай суседкі значна ўскладнілася. Прадпрыемства пачало шукаць новых партнёраў. І вось ужо выраблены брыльянты з першай партыі алмазаў, якія здабыты ў Венесуэле. Да ўсяго прадпрыемства ўжо працуе па пытаннях пастаўкі алмазнай сыравіны яшчэ з дзвюх краін Афрыкі. І гэта нармальна, бо мы жывём у сваёй краіне, у якой разумеюць, што адна крыніца для паставак — гэта ненармальна, бо ў такім выпадку можна застацца без патрэбнай сыравіны ці прадукцыі.

### *РАСПРАЦОЎКІ ТЫДНЯ*

Расійскія вучоныя распрацавалі тры новыя прэпараты для барацьбы з грыпамі іншымі віруснымі інфекцыямі. Першы з іх пакуль што знаходзіцца на стадыі афармлення патэнта і не мае назвы. Прэпарат блізкі па структуры да камфары. Два іншыя прэпараты — трыязатрын: энцыклан — рыхтуюцца да масавай вытворчасці. Яны вельмі эфектыўныя не толькі супраць грыпу, але і супраць энцэфаліту. Словам, гэтыя лекі якраз хутка спатрэбяцца — наперадзе ж зіма і, як звычайна, эпідэмія грыпу.

---

**СУСТРЭЧЫ**

# У ГОНАР ПЕСНЯРА

Пад такой назвай у сталічнай раённай бібліятэцы, што носіць імя Якуба Коласа, прайшоў ранішнік, прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі. На ўрачыстасць былі запрошаны сын незабыўнага дзядзькі Якуба, доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч і старшы навуковы супрацоўнік Коласаўскага музея Іван Курбека. Сваёй прысутнасцю ў нашай гасцёўні ствралі яны цёплую, добразычлівую атмасферу.

Многія цікавыя факты з багатага жыццяпісу бацькі распавёў Міхась Канстанцінавіч, артыстычна прачытаў урыўкі з некаторых вершаў. Было адчуванне, што слухачы-пяцікласнікі па-новаму ацанілі ўжо вядомыя ім творы.

Іван Курбека расказаў пра займальныя выпадкі з жыцця-быцця музея, пазнаёміў вучняў са зместам сваёй кніжкі лінгвістычных загадак "Хітрыя літары".

Да гэтай падзеі прымяркоўвалася і адкрыццё кніжнай выстаўкі. На ёй экспанаваліся некалькі выданняў паэмы "Міхасёвы прыгоды", героем якой з'яўляецца малодшы сын Якуба Коласа, сённяшні 76-гадовы Міхась Міцкевіч, беларускі вучоны.

**Лола ІНАЗЕМЦАВА, Алена ПЯТРОВІЧ, супрацоўніцы бібліятэкі**



*НА ЗДЫМКУ: Міхась МІЦКЕВІЧ выступае перад чытачамі бібліятэкі.*

## «ПЕСНЯЙ ВІТАЮ Я ВАС»

Менавіта гэтымі словамі паэта і было названа свята, што прайшло на Ганцаўшчыне. А святкавалі палешукі 120-годдзе з дня нараджэння слыннага Якуба Коласа, які пачынаў свой працоўны шлях у вёсцы Люсіна, што непадалёку ад райцэнтра. Тут 100 гадоў таму малады Канстанцін Міцкевіч пераступіў парог мясцовай школкі, каб перадаць свае веды, эрудыцыю дзеткам, што жылі ў палескай глухамані. Тут ён зведаў характар, светапогляд палешукоў, дзівіўся красою наваколля, што перадаў у сваім выдатным творы праз вобраз незабыўнай Ядвісі, праз легенды пра Целяшоў дуб і Яшукову гару.

А пачалося свята з адкрыцця раённага краязнаўчага музея, дзе ёсць экспазіцыя, прысвечаная Якубу Коласу. Аздобіў інтэр'ер памяшкання мінскі мастак Віктар Макарчук. Гэта, дарэчы, другая такая ўстанова, якая сёлета распачала сваю працу з воблсці, пра што паведаміў прысутным загадчык аддзела культуры аблвыканкама Рыгор Бысюк.

Потым госці свята наведалі літаратурна-этнаграфічны музей Якуба Коласа ў Люсінскай сярэдняй школе. Услед адбылося і адкрыццё памятнага знака на месцы той школкі, у якой працаваў славуты пясняр. Самымі непасрэднымі ўдзельнікамі свята былі самі люсінцы, якія шчыра віталі арганізатараў імпрэзы, старшыню райвыканкама Уладзіміра Столяра і загадчыцу аддзела культуры Ірыну Марцінкевіч. Не менш цёпла віталі палешукі і землякоў-паэтаў, што прыехалі са сталіцы, Віктара Гардзея і Уладзіміра Марука, якія чыталі вершы і перадалі ў абодва музеі свае кнігі.

**У. ЦЕЦЕР**

## КРЫНІЦЫ ДУШЫ

Так называлася свята паэзіі, якое адбылося ў Касцюковічах, што на Магілёўшчыне. Яно было прымеркавана да юбілею Купалы і Коласа. Творы вялікіх песняроў, а таксама паэтаў-землякоў А. Куляшова, А. Русецкага, А. Пысіна гучалі ў выкананні самадзейных артыстаў. Маладыя паэты Касцюкоўшчыны, госці з Клімавічаў, Краснаполля, Хоцімска чыталі свае вершы.

На вечарыне выступілі літаратары-землякі Леанід Левановіч і Алесь Пісьмянкоў. Беларускія песні хораша спявалі жаночы ансамбль з вёскі Белая Дуброва, вакальны квартэт раённага Дома культуры. Свята яскрава засведчыла, што зямля Прыбяседдзя шчодрая на таленты, што паэтычныя крыніцы бруяцца насуперак Чарнобылю і ўсялякаму ліху.

**Наш кар.**

---

**ПАМЯЦЬ**

# ПОМНІК ІГНАТУ ДАМЕЙКУ

Сёлета сусветная грамадскасць адзначае 200-годдзе з дня нараджэння Ігната Дамейкі – ураджэнца Беларусі, славутага геолага, даследчыка Чылі, сусветна вядомага вучонага.

Ушаноўваюць памяць славутага земляка і ў Беларусі. У 1997 г. да 195-годдзя з дня нараджэння І.Дамейкі на яго радзіме ў вёсцы Мядзвядка Карэліцкага раёна створаны музей. І сёння аб гэтым музеі ведаюць у многіх краінах свету, экспазіцыі папаўняюцца фотаздымкамі, матэрыяламі, публікацыямі, ёсць задумка расшырыць плошчу музея. І безумоўна, ва ўсім гэтым вялікая заслуга калектыву школы і яе дырэктара В. Хіневіча.

Да 200-га юбілею Мядзвядка стала яшчэ больш добраўпарадкаванай, прыведзена ў парадак месца сядзібы, у двары школы ўстаноўлены бюст І.Дамейкі скульптара Г. Лойкі.

У вёсцы Крупава Лідскага раёна ў сярэдняй школе (дырэктар У. Гівойна) таксама адкрыты музей, прысвечаны І.Дамейку. Экспазіцыю гэтага музея ўдалося сабраць Варшаўскаму музею Зямлі Польскай акадэміі навук. Да 200-годдзя каля школы будзе ўстаноўлены памятны знак (валун з выявай І.Дамейкі) работы скульптара Р.Грушы. Тутжа ў Крупаве цэнтральная вуліца Лідская перайменавана ў вуліцу І.Дамейкі. У Заполлі Лідскага раёна, з якой многа звязана ў жыцці І.Дамейкі ў маладым узросце, пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры і мастацтваў Польшчы ўстаноўлены абеліск з памятнай дошкай.

Ужо некалькі гадоў таленавітыя вучні Карэліцкага раёна атрымліваюць спецыяльныя "Стыпендыі Ігната Дамейкі".

Да 200-гадовага юбілею ў Міры прыведзены ў парадак касцел св. Мікалая і тэрыторыя навокал яго, дзе пахаваны бацька вучонага, старшыня Навагрудскага земскага суда Іпаліт Дамейка. Тут устаноўлены мемарыяльныя памятны знак (скульптар Р.Груша).

У серыі "Беларускі кнігазбор" у гэтым годзе убачыць свет кніга Ігната Дамейкі "Мае падарожжы", упершыню перакладзеная на беларускую мову Зд.Сыцька.

Урадам Беларусі быў створаны Нацыянальны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў, прысвечаных 200-годдзю з дня нараджэння І. Дамейкі. Урачыстасці прайшлі ў Крупаве, Заполлі, Навагрудку, Міры, Мядзвядцы, Карэлічах, Мінску. Традыцыйныя VI Карэліцкія чытанні адбыліся ў Міры. Адным з самых значных мерапрыемстваў стала правядзенне ў Мінску ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Сучасныя праблемы геалогіі Беларусі, Літвы і Польшчы", прысвечанай І. Дамейку. У Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь была разгорнута вялікая выстава. Урачысты вечар, прысвечаны гэтаму высокаму юбілею, адбыўся ў памяшканні Тэатра юнага гледача. На вечары






Прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі М. Мясніковіч зачытаў віншаванне Прэзідэнта РБ А. Лукашэнкі ўдзельнікам урачыстасцей.

Царызм не даў І.Дамейка магчымасці прысвяціць свой талент Беларусі. У Чылі яго называюць апосталам навукі і лічаць палякам, палякі збіраюць экспазіцыі для музеяў Беларусі. І.Дамейка ўсім сваім жыццём заслужыў права на памяць і помнікі на беларускай зямлі.

**Ядвіга АНОШКА, супрацоўніца Інстытута геалагічных навук НАН Беларусі**

# «АД ПРЫДУРКАЎ ДА НАМЕНКЛАТУРНАЙ ШАЛУПЕНІ», АЛЬБО ЧАМУ МЫ ГЭТАК МОЦНА НЕ ЛЮБІМ САМІХ СЯБЕ?!

Што да слоў, узятых вышэй у двукоссе, іх не хацелася б выносіць у назву і ўвогуле, прамаўляць! Што называецца, не з таго лексікону. Помніцца, калісьці даўно, у студэнцкія гады Мікола Федзюковіч над сваім пісьмовым сталом вывешваў слупок, складзены з некалькіх дзесяткаў слоў, якія, на яго думку, не павінен быў ужываць у сваёй паэзіі. Але гэта пра творчасць, ды і ці мала што можа помніцца са студэнцкіх гадоў! Скажам, як мы, студэнты-беларусы ў Літаратурным інстытуце па ўсёй Маскве бегалі, шукаючы кніжку паэзіі Рыгора Барадуліна ў цудоўным перакладзе Ігара Шклярэўскага "Аист на крыше", альбо як прымалі віншаванні ад выкладчыкаў з нагоды публікацыі ў часопісе "Дружба народов" "Рэквіема..." Анатоля Вярцінскага таксама ў цудоўным перакладзе нашай жа студэнткі, а потым выдатнага беларускага крытыка Алы Кабаковіч. Ці, як у 1970 годзе я прыехала на практыку ў штотыднёвік "Літаратура і мастацтва", пайшла з накіраваннем у Саюз пісьменнікаў і першым, каго сустрэла, быў Максім Танк. Пачаў распытваць, хто, што, адкуль?! А я стаю, і ў мяне слёзы на вачах, — ад хвалявання, ад разгубленасці, ад утрапёнасці (ці хто-небудзь з пачаткоўцаў цяпер расплачацца на Фрунзе 5 ад падобных пачуццяў?). А далей проста ўзлятала да нябёсаў, калі рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў даў Пімен Емяльянавіч Панчанка, а на прыёмнай камісіі ажно некалькі маіх вершаў зачытаў сам Ніл Сымонавіч Гілевіч! І гэта толькі асобныя моманты, з якіх і пачыналася літаратурнае жыццё, дакладней, уваход у яго. Потым было шмат іншых, да прыкладу, ужо ў не такім далёкім часе, у 1989 годзе паехала я ад нашага Саюза пісьменнікаў у Ленінград на святкаванне 100-гадовага юбілею з дня нараджэння Ганны Ахматавай, маючы пераклады ейнага "Рэквіема" і асобных лірычных вершаў. Некалькі з іх давялося прачытаць у Камарове ля магілы Ахматавай, пасля чаго пачуліся воплескі. Да мяне адразу ж падышла руская паэтка Тамара Жырмунская, маўляў, Рая, што адбываецца! "Дзе ты чула, каб на магілках гучалі апладысменты!" І мне засталося толькі адказаць, што яны ў гонар паэзіі Ганны Ахматавай і нашай спеўнай беларускай мовы, якая, на маю думку, як ніякая іншая ў свеце прыдатная для паэзіі. Што і даказваюць многія і многія нашы паэты сваёй творчасцю.

Не ведаю, ці захаваліся ў архівах нашага творчага Саюза тыя лісты і тэлеграмы, поўныя захаплення і ўдзячнасці, якія ляцелі наўздагон пасля таго, як нашыя беларускія творцы прымалі ўдзел у шматлікіх Днях літаратуры за савецкім часам. Яны — сведчанне таго, як выглядала наша літаратура на фоне іншых літаратур. Сціпла кажучы, ніяк не горш, каб не сказаць большае. А што да самога Саюза, дык мы цяпер найчасцей згадваем толькі тое, што створаны ён быў у мінулым, дваццатым стагоддзі, толькі для таго, каб трымаць пісьменнікаў у пэўным ідэалагічным накірунку. Але ж можна зазірнуць і глыбей у гісторыю чалавецтва. Тут ужо проста працытую з адной мудрай кніжкі: "...у III стагоддзі да н. э. рымскі сенат даў "скрыбам" (пісьменнікам) права сходаў і сумесных богаслужэнняў у храме Мінервы, што можна прыняць за ўзнікненне першага прафсаюза літаратараў... Гэтая галыцьба зарабляла сабе на хлеб складаючы тэксты для народных святкаванняў, эпіталамы і эпітафіі для знатных грамадзян, працавала сакратарамі ў дзяржаўных дзеячоў і вышуквала ўсялякі іншы заробак... Грамадства з вялікімі цяжкасцямі засвойвала неабвержнае: літаратура заслугоўвае падтрымкі".



Пра апошняе (падтрымку літаратуры) на ўсіх узроўнях грамадства і пачалі даводзіць мінулым летам асобныя з нас і мы ўсе былі сведкамі, што з гэтага атрымлівалася... Самае "яркае" напэўна тое, як старонкі многіх "незалежных" выданняў застракацелі выразам, накшталт "прыдуркі, дэгенераты з дэгенерацкімі выданнямі, шарыкавы, пустадомкі і г. д.". Якая ўжо тут прафесійная этыка, якое права на нечае сваё меркаванне, свой уласны погляд, які, вядома ж, можа падпадаць і пад крытыку. Ну, сапраўды, мы ж усе не інкубатарныя! І разам з тым... Ды, што згадваць, — наш пісьменніцкі з'езд адбыўся, прайшоў, з'явілася новае кіраўніцтва, але зноў штосьці не гэтак! Ужо нехта іншы і тых, і гэтых назваў "вар'ятамі, а самых актыўных выступоўцаў "наменклатурнай шалупенню". Ну зусім, як па Біблії, "Не судзі, ды не судзімы будзеш". І гэта ўсё можна зразумець, ёсць жа прыклады, калі, скажам, гады чатыры таму назад, ледзь не ўсёй Радай нашага творчага саюза накідваліся на Уладзіміра Някляева (як і не парвалі), незразумелым падаецца іншае: як жа выжываць нашай літаратуры пасля ўсяго гэтага?! Як збіраць тыражы для кніжак?! Адкрываць новыя літаратурныя імёны, а яны ж амаль не з'яўляліся на працягу ўсяго мінулага дзесяцігоддзя! Прыкра, што мы ўсе засяродзіліся не на літаратуры, а на чымсьці іншым. Тым больш, што пасля ўсёй гэтай "разцуглянасці Пегасаў", пасля ўсіх маланак і стрэлаў у Мінск прыехаў з Масквы, як паведаміў на пачатку кастрычніка друк, "геніяльны прадстаўнік руска-савецкага паэтычнага авангарда Андрэй Вазнясенскі на публічныя чытанні сваіх вершаў". Што і адбылося ў малой зале Палаца Рэспублікі. Гучалі авацыі, пстрыкалі фотакамеры, выдатны Паэт "прымаў" пацалункі прыўкрасных паненак...

Усё амаль, як і раней, у мінулым стагоддзі, калі да нас прыязджалі з Масквы вядомыя паэты, якім аддаваліся лепшыя залы (на той час зала філармоніі), а мы, тады маладыя, сабраўшыся нейкім блізкім колам, чыталі свае вершы на сваіх жа невялічкіх кухнях. З гэтым усіх нас можна і павіншаваць! Збіраймася і далей на кухнях! А што да "Маладосці", дык, калі ласка, прыносьце свае лепшыя творы ў рэдакцыю (не асабіста для Баравіковай, якую, не выключаю, і гэта натуральна, я — жывы чалавек, можна і не любіць, і не ўспрымаць), а для таго, каб надрукаваць іх на старонках часопіса, якія ўпішуцца ў гісторыю нашай жа літаратуры, і выдатнай, і таленавітай. Вось толькі б зразумеў і пабачыў гэта чытач!

**Раіса БАРАВІКОВА**

ЛіМ-ЧАСАПІС

## БРАВА, БАБАРЫКІН!

***Яго імя, даволі папулярнае сярод музыкантаў, цяпер будуць ведаць не толькі яны.***

Віктару Бабарыкіну 24 гады, ён толькі ўчора быў студэнтам, але, як ні дзіўна, ужо мае выдатную рэпутацыю ў адной з найскладаных, т. зв. "узроставых", музычных прафесій. Ён — дырыжор, прычым, з досведам працы паралельна ў некалькіх калектывах. Хаця прафесійна вывучае дырыжыраванне адначасова з удасканаленнем у іншай спецыялізацыі.

Сёлета ён скончыў Беларускую акадэмію музыкі, паступіў у магістратуру. Але яшчэ да гэтага стварыў унікальны ансамбль медных духавых інструментаў, дзе сам, дарэчы, грае на эўфоніуме. Нязвыклае слова? Яно паходзіць ад эпітэта "мілагучны" і адносіцца да інструмента, больш вядомага пад назвай "барытон" і вонкава падобнага да чагосьці сярэдняга паміж тубай ды валторнай. Гэта і сапраўды мілагучны голас у духавых аркестры, у біг-бэндах, у джазе. Ён аднак не выкарыстоўваецца ў традыцыйных сімфанічных партытурах, у акадэмічных камерных ансамблях ці сола. Віктар Бабарыкін упасная практыкай, выдатнай ігрой выяўляе багатыя мастацкія магчымасці эўфоніума, гучанне якога ўспрымаецца як бельканта, высакародны тэмбр заварожвае, нібы новае адценне, атрымане ў сумоўі пранікнёных цёплых інтанацый.

Захапіўся дырыжыраваннем яшчэ ў Мінскай музычнай вучэльні, але гэты факт застаўся ў межах, скажам так, навучальнага працэсу. Затое калі Віктар Бабарыкін, ужо студэнт Беларускай акадэміі музыкі, удзельнічаў у Другім беларускім фестывалі эстрадных аркестраў і дырыжыраваў біг-бэндам акадэміі, ён уразіў шырокую публіку ды выклікаў захапленне карэспандэнта "ЛіМа" як "малады яркі дырыжор" (цытата, гл. газету за 17.12.99 г., "У гэтым жанры пазёраў не бывае").

Летась імя Бабарыкіна зноў з'явілася на лімаўскіх старонках: духавы аркестр Мінскай музычнай вучэльні пад яго кіраўніцтвам заняў 1-е месца на Рэспубліканскім конкурсе вучэбных выканальніцкіх калектываў. А неўзабаве малады маэстра стаў за пульт знанага духавога аркестра Акадэміі музыкі "Фанфары Беларусі", з якім паспяхова выступіў на сёлетнім фестывалі студэнцкіх аркестраў у Францыі.

І — нядаўні факт. З пяці прэтэндэнтаў на пасаду галоўнага дырыжора новага аркестра — Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь — абраны ён, Віктар Бабарыкін. Калектыў, як вядома, толькі ствараецца, і яго кіраўнік разам з іншымі кампетэнтнымі спецыялістамі заняты цяпер праслухоўваннем, падборам будучых артыстаў. Праца па стварэнні аркестра мае быць завершана да 6-га лістапада. Магчыма, новы год краіна сустрэне пад музыку ў яго выкананні!

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## МУЗЫКА БЕЛАРУСКАГА РЭНЕСАНСУ

Праект Арыны Вячоркі "Легенды Вялікага Княства" пры падтрымцы БМАgroup набывае новае дыханне — запланавана серыя канцэртаў старадаўняй музыкі самых папулярных і вядомых выканаўцаў сярэдневечнай беларускай музыкі. Штомесяц на базе Рэспубліканскага палаца культуры ветэранаў аматары музычнай медыявістыкі атрымаюць магчымасць не толькі паслухаць музыку, але і пагаварыць са сваімі ўлюбёнымі выканаўцамі. Таксама можна абмеркаваць праблемы апрацоўкі і стылізацыі гістарычных мелодый, спосабаў іх выканання. Акрамя гэтага слухачы змогуць прагаласаваць за найлепшую кампазіцыю вечарыны, вартую для новай музычнай зборкі "Легенды Вялікага Княства-2". Месца правядзення імпрэзы: Рэспубліканскі палац культуры ветэранаў, вул. Я. Купалы, 21. Білеты прадаюцца ў касе Палаца і ў распаўсюджвальнікаў (у метро). Пачатак канцэртаў — 19.00.

Расклад будучых канцэртаў праекта:

**29.10.02** — Юбілейная вечарына, прысвечаная трохгоддзю гурта "Стары Ольса" (новыя творы, сярэднявечныя танцы, адказы на пытанні).

**26 лістапада** — "Музыка Літвы і Кароны" — Хор "Унія".

**29 снежня** — Старадаўнія спевы, канты — Гурт "Guda", "Капэля Алеся Лася", салістка Вольга Емельянчык (Полацк).

**28 студзеня** — творчая вечарына дудара Алеся Журы і Іны Перасецкай.

**26 лютага** — "Музыка замкаў і палацаў". Лютніст Юры Дубнавіцкі (Пінск), квартэт "Кантраданс" (Баранавічы).

**25 сакавіка** — "Старадаўнія гімны і гістарычная песня".

**22 красавіка** — Еўрапейская танцавальная музыка.

**20 траўня** — арганны канцэрт.

**А. МІТРАНОВІЧ**

## НЕДРУГАРАДНАЕ КІНО

24 кастрычніка быў дзень, калі ў Мінску пачаўся сапраўдны кінабум. У кінатэатры "Мір" адкрыліся Дні ўкраінскага кіно. На святочнымадкрыцці паказалі эпічна-гістарычную драму "Чорная рада" рэжысёра Мікалая Засеева-Рудэнкі. Сёння можна будзе ўбачыць карціны знакамітага ўкраінскага рэжысёра Кіры Муратавай: каротказметражную стужку "Ліст у Амерыку" і поўнаметражны фільм "Другарадныя людзі". Заўтра ў кінатэатры "Піянер" мінчукоў чакае разнастайная праграма ўкраінскага анімацыйнага кіно.

Учора ўзяў пачатак фестываль "Новы праект. Кінафармат 4х4", арганізатарам якога выступіў "Кінавідэапракат" (ідэя фэсту наступная: чатыры дні на месяц ў чатырох кінатэатрах дэманструюцца чатыры стужкі). Да 27 кастрычніка на экранах мінскіх кінатэатраў "Аўрора", "Бярэсце", "Мір", "Перамога" будуць паказаны лепшыя замежныя элітарныя фільмы. А менавіта "Восем жанчын" Франсуа Азона (у галоўных ролях вядомыя французскія актрысы Катрын Дэнёў, Фані Ардан, Ізабель Юпер), "Гасфорд парк" Роберта Олтмэна (прыз "Оскар — 2002" за лепшы сцэнарый, і прыз "Залаты мядзведзь" за лепшую рэжысуру на сёлетнім Берлінскім кінафестывалі), "Вас не дагоняць" Леа Пула, "Давай! Давай!" Пэйтана Рыда.

Гэтаму фэсту папярэднічаў "Фестываль аднаго фільма" Сяргея Арцімовіча, які ўзначальвае "Студыю XXI". Аднак, два месяцы таму "Кінавідэапракат" нечакана разарваў дамову са "Студыяй XXI" і "запусціў" "Новы праект. Кінафармат 4х4", які вельмі нагадвае "Фестываль аднаго фільма".

**В. Б.**

АБСЯГІ

*БРЭСТЧЫНА*

## СТРУНЫ ПАМЯЦІ

Нішто на зямлі не праходзіць без следу. Тым больш гэта ты064 ыцы Вялікай Айчыннай вайны, якую будуць помніць шмат пакаленняў чалавецтва. 60 год назад, 11 верасня, нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску Драмлёва, што ў Жабінкаўскім раёне. Зараз на яе месцы вышыцца курган і тры бронзавыя постаці жанчын. Штогод тут праходзіць жалобны мітынг па ахвярах вайны. Сёлета ён прайшоў пад назвай "Трывожныя струны памяці". Прадстаўнікі Савета ветэранаў і ўлады Жабінкаўскага раёна, дэлегацыі працоўных калектываў і вучні школ сабраліся разам на гэтым гаротным месцы, каб яшчэ раз успомніць паіменна жыхароў спаленай вёскі. Хаця вёска і не адрадзілася зноў, але яна ўпамінаецца ў літаратурных творах пісьменнікаў Жабінкаўскага раёна. Хвіліна маўчання, ускладанне кветак, запаленыя лампадкі, дыктарскі тэкст склалі атмасферу мітынгу.

## ВУЧАЦЦА АРГАНІЗОЎВАЦЬ КУЛЬТУРУ

У Бярозе з восені 2002 года пачала дзейнічаць школа ўдасканальвання работы культарганізатараў раёна. Каля 200 маладых і са стажам работнікаў прымуць удзел у рабоце гэтай школы па наступных напрамках: народная творчасць, вакальна-харавая, аматарская, харэаграфічна-тэатральная дзейнасць. Арганізатары школы, а гэта раённы метадычны цэнтр Бярозы, пайшлі наперад і дадалі яшчэ адзін напрамак, актуальны ў наш час — эканоміка і ўпраўленне культасветустановамі.

Першы занятак прайшоў 25 верасня. А ўвогуле плануецца праводзіць такія заняткі 2 разы на месяц. Метадыстамі цэнтра ўжо распрацаваны планы работы на 2 гады. У якасці лектараў будуць запрошаны эканамісты, урачы, на занятках будуць вывучацца практычныя мерапрыемствы, прымуць удзел самадзейныя калектывы.

**Аксана КЛУНІНА,**
**метадыст Брэсцкага АГКЦ**

# ДНІ КІТАЙСКАЙ КУЛЬТУРЫ

У рамках Дзён кітайскай культуры ў Рэспубліцы Беларусь прайшоў шэраг мерапрыемстваў, якія пазнаёмілі шырокую грамадскасць з традыцыямі, культурай, жыццём усходняй краіны. У Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбыўся вечар кітайскай музыкі, дзе прагучалі музычныя творы ў выкананні кітайскіх студэнтаў -- навучэнцаў Беларускай акадэміі музыкі. У Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава твораў кітайскай акварэлі, дзе экспануюцца унікальныя творы сучасных майстроў, чыя мастацкая дзейнасць распачалася прыкладна ў сярэдзіне XX стагоддзя. Гледачы могуць азнаёміцца са своеасаблівай выяўленчай культурай старажытнага народа, якая бярэ вытокі ў сівой мінуўшыне, якую вывучаюць, якой заўсёдна захапляюцца мастакі ўсяго свету цягам доўгага часу. Пра цесныя ўзаемасувязі абедзвюх краін у галіне культуры гаварылі міністр культуры Рэспублікі Беларусь Леанід Гуляка, намеснік міністра культуры Кітайскай Народнай Рэспублікі Чжэн Сяогуан, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол КНР у Рэспубліцы Беларусь Юй Чжэньцы, народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі.

У Палацы Рэспублікі адбылося выступленне аркестра фарфоравых музычных інструментаў. Гучалі зурна, кітайская скрыпка, флейта "Коудзі" -- самая маленькая флейта ў свеце, бамбукавая флейта, музычны інструмент "Бау". Беларускія гледачы пазнаёміліся з неўміручым танцавальным мастацтвам кітайскага народа, пачулі народныя песні, прысвечаныя каханню, чалавечым адносінам і звычаям, хараству прыроды, роднай зямлі. У выкананні артыстаў аркестра прагучалі таксама "Подмосковные вечера", "Ой, цветет калина", "Катюша".

**М.Р.**

# ЗАЎСЁДЫ Ў ПОШУКУ

Выстава "Дванаццаць месяцаў года Каня" мастачкі Валянціны Шобы адбылася ў галерыі мастацтва. Як адзначыў старшыня Беларускага Саюза мастакоў Уладзімір Басалыга, вучаніца прафесараў В.Шаранговіча і В.Савіча здолела знайсці сваю сцяжыну, сцвердзіць свой вобраз, свой стыль, свой свет, зрабіць свой унёсак у культуру. Яна ні на каго не падобная, адметны, сапраўдны творца, заўсёды ў пошуку. Яе мастацтва, прасякнутае своеасаблівай думкай, расквечанае насычанымі барвовымі, сінімі, залатымі фарбамі, каларыстычныя знаходкі -- менавіта яе мастакоўскі набытак. Калі ўглядаешся ў яе творы, прыходзіць пачуццё, што яны грэюць душу, іх хочацца разглядаць, мецъ у хаце, адчуваючы ціхую радасць, заспакоенасць і асалоду. Як падкрэслівае мастачка, зямля і неба -- едныя, і для адлюстравання гэтай сакральнай еднасці і непарыўнасці, нават інтымнасці, яна эксперыментуе, выкарыстоўвае своеасаблівыя, нестандартныя матэрыялы і тэхніку, імкнецца перадаць свой унутраны канфлікт, сваё разуменне сутнасці ўсяго жывога. Варта дадаць, што работы Валянціны Шобы захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, у Гродненскім гісторыка-археалагічным музеі, у фондах Беларускага саюза мастакоў, у Музеі сучаснага мастацтва ў Мінску. На адкрыцці выставы выступілі прэзідэнт Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва Фелікс Янушкевіч, дырэктар галерэі мастацтва Алена Лагоўская, сябры, калегі, прыхільнікі мастачкі.

# МОРА ЦІШЫНІ

Працягваецца выстава твораў пад назвай "Мора цішыні" Рамана Сустава -- аднаго з самых цікавых і таленавітых выпускнікоў кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Маладыя мастак, неадназова адзначаны дыпломамі і прызамі за лепшае афармленне кніжных выданняў -- удзельнік шматлікіх выстаў і конкурсаў, што праводзяцца ў нашай краіне і за мяжой. Творы Рамана Сустава вызначаюцца тонкім густам, высокім майстэрствам, складана-фантастычнымі ўяўленнямі пра рэчаіснасць, своеасаблівай манерай выканання.

**М.Р.**

НАДЗЁННАЕ

# ТРЫМАЦЬ ПЛАНКУ ДУХОЎНАСЦІ

***Радыё займае значнае месца ў жыцці чалавека. А для прапаганды літаратуры і мастацтва, выхавання павагі да традыцый, культуры народа — гэта неацэнная аўдыторыя: слухаюць жа радыё тысячы і мільёны людзей. Такой аўдыторыі няма ні ў газет, ні ў часопісаў. Аб тым, што сёння новага на нацыянальным дзяржаўным радыё, якое месца займае там літаратура, наш карэспандэнт гутарыць з пісьменнікам, галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё Навумам ГАЛЬПЯРОВІЧАМ.***



**— Змены, якія адбываюцца сёння на Беларускім радыё, некаторымі ўспрымаюцца неадназначна: ад захаплення да рэзкага непрымання. Як вы маглі б патлумачыць сітуацыю.**

— Гэта даволі натуральная рэакцыя, калі ідуць глыбокія структурныя перамены. Сёння наша радыё становіцца больш сучасным па форме, укараняюцца новыя тэхналогіі, прыходзяць новыя людзі. Гэта незвыкла, бо па форме падачы матэрыялу, па майстэрству і манеры большасці журналістаў эфір быў зусім іншы, чым сёння. Але час не стаіць на месцы, і калі раней мы былі манапалістамі ў айчыннай эфірнай прасторы, прычым так званыя "кропкі" стаялі ў кожным доме, то цяпер у беларускім эфіры працуюць нават не дзесяткі, а сотні радыёстанцый, з якімі трэба вытрымліваць канкурэнцыю.

**— Гэта значыць "ісці на паваду" ў слухача, падрабляючыся пад танныя густы!**

— Я бы так не сказаў. Магчыма хтонібудзь з маладых і паспяшаўся настроіцца на такую форму работы, але мы на мастацкім савеце ды і кіраўніцтва радыё не раз падкрэслівалі: мы не ФМ-станцыі, мы — дзяржаўнае радыё, і павінны трымаць планку духоўнасці, высокага густу, асветніцтва, абапірацца на нацыянальныя традыцыі.

**— А чаму так многа перадач рускамоўных?**

— Я б не сцвярджаў, што так многа. З усяго эфірнага часу на першым нацыянальным канале і канале "Культура" іх даволі малы працэнт. Але ёсць, як гэта ёсць і ў грамадстве, групы людзей, якія пакуль што не засвоілі як родную мову. Гэта тычыцца і некаторых вядучых, і выступоўцаў, ды, урэшце, і слухачоў. Але агульная тэндэнцыя ўсё ж да прыярытэту роднай мовы. Гэтаму служаць і перадачы "Роднае слова", "Моўныя хвілінкі", якія гучаць па тры разы на дзень штодзённа. А перадачы журналістаў Рэгіны Гамзовіч, Тацццяны Песнякевіч, "Славутыя імёны Бацькаўшчыны" Рамана Мышкоўскага, "Вяртанне" і "Гаспода" Галіны Шаблінскай!.. Яны высокапрафесійныя, глыбоканацыянальныя, маюць такі патэнцыял беларускасці, што цяжка сёння нават з чым-небудзь у нашай перыёдыцы параўнаць. І такіх перадач нямала. Прычым, агульная моўная культура нашых журналістаў, і, што прыемна, маладых, значна ўзрасла.

**— А як пачуваецца ў нацыянальным эфіры нацыянальная літаратура? Хадзілі чуткі, што яе адсунулі на другі план...**

— Ну, калі на папярэднія пытанні я адказваў толькі як член мастацкага савета, як радыёжурналіст са стажам работы на Беларускім радыё каля дваццаці гадоў, то тут мне, што гаворыцца, давядзецца адказваць па поўнай, бо літаратура на радыё — мой галоўны клопат як галоўнага, куратара ўсіх літаратурных праектаў.

Дык вось, магу запэўніць, што ў новым вяшчальным сезоне, які пачынаецца з 1 лістапада, літаратура на радыё будзе прадстаўлена ў максімальна поўным аб'ёме. Калі на першым нацыянальным канале ў асвятленні сучаснага літаратурнага працэсу, класічнай спадчыны будзе пераважаць інфармацыйнасць і аналітыка, то канал "Культура" павернецца тварам да арыгінальнай літаратуры, пастановак, матэрыялаў з фондаў радыё.

Але па парадку. Па-першае, працягваецца праект "Ад роднае зямлі, ад гоману бароў", прысвечаны 120-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Кожную пятніцу ў "Радыёфакце", кожны чацвер у вячэрнім эфіры гучаць пазыўныя гэтага праекта, выступаюць навукоўцы, пісьменнікі, настаўнікі, прадстаўнікі грамадскасці, гучаць цікавыя матэрыялы пра нашых класікаў. Штодзень артысты чытаюць іх вершы. Гэты праект прадоўжыцца да канца года.

Першы нацыянальны канал прадставіць штовечар у будні дні час з 22.30 да 23.00 аўтарскім праграмам пра літаратуру. Цікавымі і арыгінальнымі абяцаюць быць праграмы Ірыны Шауляковай "Сентыментальнае паляванне", Галіны Шаблінскай "Палітра", Святланы Шалімы "Авансцэна". Прапаную сваё бачанне і я ў праграме "Брама".

Так, да прыкладу, у праграму Галіны Шаблінскай увойдуць і тыя перадачы, што ўжо атрымалі прызнанне — "Класіка. Сучаснае прачытанне", "Ад задумы да твора", і зусім новыя, "Сентыментальнае паляванне" абяцае быць сучаснай і палемічнай...

У суботу і нядзелю пра літаратуру будуць гаварыць і ў ранішнім, і ў дзённым, і ў вячэрнім блоку. Перадачы будуць аб'яднаны праектамі Маргарыты Прохар і Святланы Дзевяткавай "Літаратурны праспект" і "Кнігарня".

Зусім новай формай стануць "Кароткія гісторыі", якія будуць гучаць на першым канале штодзённа пасля паўночы. Гэты ўнікальны час аддадзены шэдэўрам сусветнай і айчыннай літаратуры.

Што тычыцца канала "Культура", то літаратурным праектам тут аддадзены штодзённа лепшы час у "Клубе дамаседаў" з 10 да 14 гадзін, у аўторак, акрамя гэтага, значна пашыраная праграма "Гаспода" Галіны Шаблінскай.

Плённа на канале "Культура" будуць працаваць Васіль Макарэвіч, Уладзімір Дзюба, Зоя Каваленка, Іван Рыбіцкі, Людміла Рублеўская, маладыя журналісты.

Васіль Макарэвіч, да прыкладу, будзе весці перадачу "Натхненне" — паўгадзіны арыгінальнай паэзіі і прозы. Гэта будуць своеасаблівыя радыёчасопісы, дзе будуць гучаць новыя творы нашых сучасных пісьменнікаў.

Калі казаць пра будучых герояў нашых перадач, то гэта, безумоўна, нашы вядомыя і маладыя літаратары — цікавыя, самабытныя, таленавітыя. Сярод запрошаных на бліжэйшыя перадачы — Рыгор Барадулін, Раіса Баравікова, Уладзімір Гніламёдаў, Васіль Зуёнак, Алесь Пісьмянкоў, Сяргей Панізнік, Янка Сіпакоў, Таіса Бондар, Леанід Дранько-Майсюк, Міхась Мушынскі, Алесь Пашкевіч, Янка Лайкоў, Ірына Дарафейчук, Наталля Капа і іншыя. Пастараемся, каб усё лепшае, значнае было намі заўважана, каб нашымі гасцямі былі многія знакамітыя і маладыя аўтары. Зрэшты, як кажуць, лепш пачуць...

**— Што ж, спадзяюся сённяшнія вашы словы будзе лёгка праверыць, уключыўшы Беларускае радыё.**

— Да гэтага я і заклікаю. Як мы часта гаворым у эфіры — "Заставайцеся з намі". Дык заставайцеся і будзьце нашымі сябрамі!

# У ЭФІРЫ— БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

***Наступны тыдзень — апошні, калі першы Нацыянальны канал і канал "Культура" працуюць па старым раскладзе, а пакуль падаём расклад перадач з 28 кастрычніка па 3 лістапада.***

У панядзелак на першым Нацыянальным канале ў **22.10** — **"Музейныя тайны"**, перадача **"Роднасць"** — у аўторак, 29 кастрычніка. У сераду Святлана Шаліма запрашае на перадачу **"Белы аркуш"**. Чацвер, 31 кастрычніка падарыць радыёслухачам у **22 гадзіны 10 хвілін** перадачу да 120-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа. Галіна Шаблінская і Навум Гальпяровіч будуць гутарыць з удзельнікамі навуковай канферэнцыі, якая адбылася ў Акадэміі навук краіны.

А ўжо ў пятніцу, 1 лістапада, у праграме новай сеткі вяшчання — **"Сентыментальнае паляванне"**. Гэта аўтарская праграма Ірыны Шауляковай. Аб чым яна — слухачы даведаюцца, паслухаўшы новы аўтарскі праект.

У нядзелю, 3 лістапада, у праграмах **"Беларускі альбом"**, якая пачнецца з 14 гадзін і **"Радыёпарк"** (16 гадзін) прагучаць літаратурныя праграмы **"Літаратурны праспект"**, **"Кнігарня"**, слухачы сустрэнуцца ў прамым эфіры з вядомымі пісьменнікамі.

Канал "Культура" прапануе ў аўторак, 29 кастрычніка, пачынаючы з 10 гадзін, цікавыя літаратурныя праекты. Гэта працяг чытання твораў Уладзіміра Караткевіча, аўтарская праграма Людмілы Рублеўскай **"Дзеяслоў"**, аўтарская праграма Галіны Шаблінскай **"Гаспода"**. У 15.00 Васіль Макарэвіч пазнаёміць слухачоў з навінкамі беларускай паэзіі і прозы. Наступныя праграмы — **"Магія творчасці"**, **"Паэтычны радыётэатр"**, **"Таленты з глыбінкі"**.

У чацвер, 31 кастрычніка, у **17.00** паэт Уладзімір Карызна пачне праграму **"Якуб Колас у беларускай музыцы"**. У пятніцу пад рубрыкай "З фондаў радыё" — спектакль тэатра імя Янкі Купалы **"Выбачайце, калі ласка"** паводле аднайменнай п'есы А. Макаёнка. Праграму **"Якуб Колас у беларускай музыцы"** з Уладзімірам Карызнам можна будзе паслухаць і ў нядзелю, 3 лістапада, у **16.00**. Гэта будзе другая частка праекта.

Нагадаем на завяршэнне, што першы Нацыянальны канал можна слухаць на хвалях **1,75, 4,21 і 2,82 м**, а таксама на хвалях, якія транслююць радыёперадатчыкамі і радыёвузламі абласцей, а канал "Культура" гучыць на хвалях **343,6 і 4,26 м.**

**Н. К.**

## ДАСЛЕДЧЫКІ ТАРАСА ШАЎЧЭНКІ

Знакаміты паэт Украіны Тарас Шаўчэнка заняў пачэснае месца ў гісторыі літаратуры і грамадскай думкі не толькі ўкраінскага народа, але і беларускага. Трэба адзначыць, што значны ўклад у вывучэнне творчасці ўкраінскага паэта ўнеслі вучоныя-літаратуразнаўцы Гомеля. Сярод іх пачэснае месца займае прафесар, доктар філалагічных навук Павел Ахрыменка.

П. Ахрыменка нарадзіўся ў Палтаўскай вобласці. У 1950 г. ён узначальваў кафедру беларускай літаратуры Гомельскага педагагічнага інстытута, а затым універсітэта. У сваіх літаратуразнаўчых працах шматувагі ўдзяляў творчасці Т. Шаўчэнкі. Менавіта ў час працы ў Гомелі ўбачылі свет яго манаграфіі "Т. Р. Шаўчэнка і беларуская літаратура" і "Тарас Шаўчэнка і Беларусь", у якіх вучоны даследуе шматгранныя сувязі Т. Шаўчэнкі з беларускай літаратурай.

Займаўся вывучэннем літаратурнай спадчыны ўкраінскага паэта і вядомы беларускі вучоны-літаратуразнавец і крытык Мікалай Грынчык, які з'яўляўся загадчыкам кафедры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны.

Вучоны дэталёва вывучаў творчасць Т. Шаўчэнкі і яго жыватворны ўплыў на развіццё беларускай літаратуры. Так, у сваёй манаграфіі "Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі" М. Грынчык паказвае ўплыў літаратурных традыцый украінскай літаратуры на творчасць некаторых беларускіх пісьменнікаў.

Разглядаючы, напрыклад, творчасць беларускага пісьменніка Я. Баршчэўскага, даследчык лічыць, што выдатнай падзеяй у яго жыцці было знаёмства з Т. Шаўчэнкам у 1839 г. Прыхільныя адносіны кабзара да яго літаратурнай дзейнасці акрылілі маладога пісьменніка і ўзмацнілі яго веру ў карысць і неабходнасць яго творчасці.

Вучоны таксама адзначае, што менавіта пад уплывам перадавых літаратурных традыцый Т. Шаўчэнкі складвалася творчая канцэпцыя пісьменніка Ф. Багушэвіча, фарміравалася яго разуменне народа і народнасці літаратуры.

Па словах М. Грынчыка, Т. Шаўчэнка аказаў значны ўплыў і на творчасць народнага паэта Беларусі Я. Купалы.

Паэтычная спадчына кабзара прыцягвала ўвагу і М. Багдановіча. Пад знакам перадавых шаўчэнкаўскіх традыцый праходзяць яго творчыя пошукі.

Звяртаўся да творчасці Т. Шаўчэнкі і цяперашні загадчык кафедры беларускай літаратуры Гомельскага універсітэта, доктар філалагічных навук І. Штэйнер. У сваёй манаграфіі "Варожаць балады вякоў. Беларуская балада і славянскія традыцыі" ён таксама паказвае ўплыў літаратурных традыцый Т. Шаўчэнкі на такі малавядомы жанр літаратуры, як балада.

Такім чынам, падсумоўваючы вышэй сказанае, можна зрабіць вывад, што гомельскія вучоныя-літаратуразнаўцы ўнеслі свой пачэсны ўклад у скарбніцу беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей.

**К. БІРУКОВІЧ**

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

Нядаўна ў Нацыянальнай бібліятэцы прайшла кніжная выстаўка, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Ігната Дамейкі — сябра-земляка. Сярод іншых кніг на экспазіцыі прысутнічала і невялікая кніжка Святланы Кошур "Вяртанне на Радзіму". Аўтар — супрацоўніца Карэліцкага краязнаўчага музея "Зямля і людзі", вядомая даследчыца-краязнаўца, — расказвае ў ёй пра таленавітых землякоў, якія ўнеслі неацэнны ўклад у скарбніцу навукі, мастацтва і асветы. А гэта такія гучныя імёны як Ігнат Дамейка, Барыс Кіт, Пятро Конюх ("беларускі Шаляпін"), мастак Валянціна Рамановіч і іншыя.

Вокладку зборніка матэрыялаў "Вяртанне на Радзіму" упрыгожвае графічная праца "Малы ветразь" (цыкл "Трокі", 1941 г.) В. Рамановіча: праз арку разбуранага замку відаць мора і ветразь, які рамантычна бялее ўдалечыні... Увогуле ўся брашура багата ілюстравана фотаздымкамі дакументаў і мастацкіх работ з фонду карэліцкага музея. У прадмове аўтар выказвае шчырую падзяку акадэміку Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, прафесару Барысу Кіту за дапамогу ў ажыццяўленні выдання гэтай кнігі.

**Людміла СІЛЬНОВА**

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# АБНАЎЛЕННЕ ДУХУ

### Развагі з нагоды прачытання кнігі Васіля ЖУРАЎЛЁВА "У пошуку духоўных ідэалаў"

Беларуская літаратуразнаўчая навука і ў сённяшні няпросты час рупіцца зрабіць свой унёсак у працэс пераацэнкі фундаментальных асноў нацыянальнай літаратуры, на аснове новых метадалагічных прынцыпаў. Патрэба новых падыходаў абумоўлена тым, што ранейшыя ацэнкі, у многім залежныя ад ідэалагічна-вульгарызатарскай і дагматычна-сацыялагічнай дактрыны, у ацэнцы мастацкіх з'яў далёка не заўсёды адпавядалі эстэтычным крытэрыям, канкрэтна-гістарычны падыход часта падмяняўся партыйна-класавым, кан'юнктурным.

Не страчвае сваёй вастрыні і актуальнасці праблема, звязаная з неабходнасцю не простага ўдакладнення асобных момантаў літаратурнага развіцця, а глыбокага пераасэнсавання ўсяго, што было зроблена ў галіне нашай літаратуразнаўчай навукі, на аснове агульначалавечых маральных і духоўных каштоўнасцяў.

Аб'ектыўных, непрадузятых ацэнак патрабуе сённяшні час, калі так востра паўстала праблема гістарычнага самавызначэння нацыі. Не менш важная і праблема асобасна-індывідуальнай самаідэнтыфікацыі саматоеснасці.

Гэтыя і іншыя пытанні і праблемы сталі прадметам засяроджанага, удумлівага роздуму Васіля Жураўлёва на старонках ягонай кнігі "У пошуках духоўных ідэалаў". Аўтар паставіў перад сабой даволі складаную задачу: на шырокім гістарыка-літаратурным матэрыяле паказаць, як у працэсе няспынных духоўных пошукаў беларускіх пісьменнікаў і мысляроў адбывалася назапашванне духоўных каштоўнасцяў і пераўтварэнне іх у стройную сістэму светапоглядных і эстэтычных прынцыпаў. Асаблівы акцэнт робіцца на прадпасылкі і ўмовы фарміравання нацыянальнай беларускай ідэі і шляхі ўмацавання агульначалавечых маральна-этычных каштоўнасцяў, пачынаючы з эпохі Ф. Скарыны, В. Цяпінскага, С. Буднага, пісьменнікаў XIX ст. і заканчваючы "нашаніўскім" перыядам. Падкрэсліваецца той факт, які доўгі час не заўважаўся ці свядома замоўчваўся, што ўжо ў творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Баршчэўскага, В. Каратынскага, А. Абуховіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны і інш. закранаюцца праблемы, "якія датычацца духоўнага паяднання людзей роднай краіны з людзьмі свету", што дазволіла ім сцвердзіць "касмаганічную, планетарную ідэю духоўнай еднасці паміж людзьмі".

У свой час, узяўшы за аснову тэзу пра адметна-нацыянальнае як арганічны складнік працэсу інтэрнацыянальнага ўзаемаўзбагачэння літаратур, В. Каваленка заўважыў наступнае: "Вывад паняцця радзімы ў сферу духоўнага космасу — гэта глыбіннае адчуванне самых перадавых тэндэнцый у развіцці свядомасці чалавецтва", што, у свой чарод, сведчыць пра "іх глабальную бесперашкоднасць развіцця на аснове чалавечнасці і справядлівасці". Вялікі змястоўны сэнс заключаны ў сцвярджэнні даследчыка, што "толькі сусветнае адзінства высакароднага чалавецтва можа па-сапраўднаму гарантаваць чалавечую і нацыянальную індывідуальнасць".

Літаратура спакваля выкіроўвала на шлях вынаходніцтва новых формаў мастацкага спасціжэння духоўнага абсалюту як моцнага супрацьдзеючага фактару ў дачыненні да разбуральных, хаатычных грамадскіх працэсаў, узбагачаючы сябе новым разуменнем чалавека і свету. Такі падыход даваў магчымасць пранікнуць у сутнасць іншых жыццёвых з'яў, заглыбіцца ў сферу маральна-этычнага, духоўнага, убачыць узаемазалежную сувязь духоўнага і нацыянальнага.

Ужо ў творчасці пісьменнікаў XIX ст. заўважаецца імкненне за стракатай фантасмагорыяй жыццёвых рэалій паказаць працэс духоўнага разняволення і абуджэння свайго героя, паступовага вызвалення яго з-пад улады абставін жыцця, пакутлівага пераадолення спрадвечнай пасіўнасці і абыякавасці да свайго лёсу. Унутраны рух літаратуры ідзе ад вобраза-дэкларацыі да вобразаў-сімвалаў, якія ўвасабляюць праблему чалавечага сумлення, праблему маральнага пошуку і выбару, праблему сэнсу чалавечага жыцця і г. д. Неабходна прызнаць, што адэкватнае ўспрыманне творчасці таго ж Ф. Багушэвіча залежыць ад усведамлення і прызнання яе поліфанічнага, шматмернага характару. Варта бачыць не толькі сацыяльны, але і духоўны пласт твораў пісьменніка, яго здольнасць улоўліваць і паказваць унутраныя, скрытыя імпульсы жыцця праз своеасаблівую "абматэрыялізацыю" духоўнага, тонка матэрыяльнага. Заўважна жаданне мастака надаць свайму слову прымірэнчае гучанне, што было абумоўлена агульнай тэндэнцыяй, скіраванай "на расшырэнне і ўмацаванне граніц класавай салідарызацыі". Сацыяльную псіхалогію свайго героя Багушэвіч не даводзіў да адкрытага класавага супрацьстаяння, а імкнуўся скіраваць у рэчышча пошуку сацыяльнага і маральна-этычнага кампрамісу, прымірэння, шляхоў яднання-братання з пакрыўджанымі і зняважанымі. Селянін Багушэвіча "выходзіць на дыялог са сваім антыподам", "шукае ў пане сабе саюзніка", а часам нават спавядаецца, вінаваціцца перад ім ("Даруй жа сляпому, што ходзе ён крыва, / / Даруй, што не відзе, хоць плача"), у чым, гаворачы словамі В. Жураўлёва, выявілася "пазітыўная глыбіня і прароцкая сіла духоўнага пошуку беларускай літаратуры XIX ст., арыентаванай у галоўных накірунках свайго развіцця на асэнсаванне і сцверджанне прынцыпу класавай салідарызацыі".

Ідэя нацыянальна-духоўнай, класавай, інтэрнацыянальнай салідарнасці розных сацыяльных слаёў грамадства, "узаемаўзгодненага дыялога як стваральнай і аб'ядняльнай духоўнай энергіі" набывала ўсё больш выразнае адценне не толькі творчага, мастацкага крэда, але і якасць своеасаблівай нацыянальнай духоўнай дактрыны. Яна, як слушна заўважае В. Жураўлёў, "з'яўляецца пануючым фактарам мастацкага тэксту ў многіх творах Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, В. Каратынскага, У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча". І, наадварот, заняволенасць, замбіраванне чалавека і яго свядомасці ўяўляе тое зло, ад якога фізічна і духоўна пакутуюць іх героі. Шлях вызвалення з гэтага палону бачыцца аўтарам праз індывідуальны жыццёвы вопыт і яго глыбокае асэнсаванне, самаўсведамленне. Больш за тое, высакародная ідэя гуманістычнага паразумення паміж людзьмі немагчымая.

Паводле ідэйна-эстэтычнай канцэпцыі тых мастакоў, творы якіх аналізуюцца ў манаграфіі, асобу чалавека, яго псіхалогію, унутраны маральны кодэкс фармуе не толькі асяроддзе, а складаны комплекс псіхабіялагічных, генетыка-антрапалагічных фактараў, прыродных, грамадскіх і гістарычных умоў. Сацыяльныя перашкоды, якія ўкараніліся ў свядомасці і звычках людзей, вядуць да ўзаемнай адчужанасці, дэфармуюць асобу. Нягледзячы на гэта працоўны чалавек, беларускі селянін валодае незвычайна магутнай сілай супраціўляльнасці і непадатлівасці ва ўмовах націску на яго неспрыяльных абставін, хоць сілы гэтыя не бязмежныя. Той жа багушэвічаўскі патрыярхальны мужык здольны не толькі ўсведамляць сацыяльную крыўду, але і даходзіць да першапрычыны яе і яе небяспечных адгалоскаў-адбіткаў. Агіднымі і амаральнымі па сваёй сутнасці здаюцца яму ўсе вычварнасці, "калючкі" жыцця, "дум благіх існаванне", "братняя крыўда" ("дабро усё здабыта / толькі крыўдай братняй"), якія "ў сэрцы нянавісць, злосць родзяць, / ... да здрады вядуць, ад праўды адводзяць!..", фармуюць філасофію "куслівага сабакі" — іншымі словамі, працуюць на адчужэнне ад хрысціянскіх прынцыпаў любові і дабрачыннасці.

Асабліва каштоўнымі падаюцца тыя месцы, дзе даследчык надзіва ўважліва і ўзважліва падыходзіць да эстэтычнай ацэнкі твораў пісьменнікаў нашаніўскага перыяду (Я. Колас, Я. Купала, З. Бядуля, А. Гарун, В. Ластоўскі і інш.), творчасць якіх разглядаецца ім у цесным кантэксце міжкультурнага ўзаемадзеяння, міжкультурнага дыялога з улікам прыярытэтнай сувязі з традыцыйна-ўстойлівым, трывалым і выверанага вякамі духоўным патэн-

НАЎЗБОЧ

# ШТРЫХІ ДА "АЎТАПАРТРЭТА"

Я ведаю Таццяну Барысюк ужо даволі працяглы перыяд часу. Яе цікавыя крытычныя і літаратуразнаўчыя тэксты даводзілася прапаноўваць да друку яшчэ працуючы ў часопісе "Крыніца"... Ведаў, што практыкуе яна і вершы. Зрэшты, хто іх не пісаў і не піша?!

І вось, як снег на галаву, — аб'ёмны, гожы, з каляровым фотаздымкам аўтара на ўсю вокладку, томік яе вершаў. Называецца "Аўтапартрэт". Кніжка наскрозь біяграфічная. Больш за тое, рэалістычная, хоць і з лірычнай аздобаю...

Што вынікае з яе прачытання? Пачну з самакрытычнага маналога самой паэткі:

*"Маё нованароджанае вершаня!*
*..................................................*
*Ты выйшла ў свет і амаль*
*забылася на мяне.*
*Цябе чытаюць, і рэдка*
*хто ўзгадвае аўтара..."*

Ну няўжо ж толькі я?..

Увогуле, як мне падалося, паэтка пакутуе на нетрыманне будзённых слоў, імгненных эмоцый і пачуццяў, хоць, пры больш адказных і самаахвярных стасунках з імі, магла б ашчадней скарыстаць свой маланкавы душэўны запал пры распальванні вершаванага вогнішча дзеля прыпыннай лірычнай самаінквізіцыі...

Самае крыўднае (і для аўтара, і для чытача), што, як загнаная ў невад рыба, тут — адно пры адным — зняволены ў акладным астрозе і паэтычныя творы, і вершаванае шалупінне (прашу прабачэння за вульгарнасць выразу). Фізкульт-прывет нашаму літаратурнаму "гайдару" Алесю Масарэнку! (Вядома, што за выданне плаціць аўтар, таму ён і музыку заказвае, але ж хоць бы "гуказапіс" рэдактар рэгуляваў...) Для каго і для чаго ў зборнік патрапілі, напрыклад, такія альбомныя "шэдэўры":

*"Нам на сустрэчу ўпала зорка.*
*Даўно душэўна тэт-а-тэт.*
*Я, ведаеш, нашу татуіроўку:*
*на сэрцы — твой партрэт".*

Альбо такія няўцямныя і неадназначныя пасажы, тым больш з-пад пяра жанчыны:

*"І недарэмна жыў, калі*
*памрэш з такім усведамленнем,*




*што для адзінага імгнення*
*кахання — варта па зямлі*
*ў бадзяннях церці мазалі".*

Дзвішся гэтым хібам, бо, як ні дзіўна, паэтка і сама вызнае "вартасць" падобных радкоў і выстаўляе ім аб'ектыўную ацэнку:

*"Душу няхай боль не вярэдзіць:*

цыялам, што прызнаецца аўтарам сутнасным звяном пры выпрацоўцы ўласнанацыянальных жыццесцвярджальных ідэалаў. Як адну з галоўных у працэсе гісторыка-культурнага фармавання гуманістычных прыярытэтаў аўтар вылучае катэгорыю этычнай духоўнасці, найвышэйшым выяўленнем якой выступае каханне. "Сюжэтны матыў кахання,— заўважае В. Жураўлёў,— быў усё ж досыць моцнай і праблемнай з'явай і ў беларускім прыгожым пісьменстве дакастрычніцкай пары, асабліва ў нашаніўскі перыяд. І нярэдка гучала гэта струна як глыбокая гуманістычная сіла, здольная пазітыўна паўплываць на аздараўленне духоўнасці асобнага чалавека і адраджэнне духоўнага народа, нацыі". Каханне выступае універсальнай сілай высокага Эрасу — шляху да пазнання быцця, набліжэнне да вышэйшай "таямніцы быцця" — важнай іпастасі саюза Красы і Дабра. Як і А. Блок, Я. Колас, напрыклад, свой высокі ідэал знаходзіць на шляхах платанічна-салаўёўскага Эрасу, пошуку жывой душы, веры ў цуд змяняючага жыццё кахання, праз якое асоба далучаецца да "іншых светаў", да музыкі "Сусветнай душы". Варта прыгадаць у якасці доказу словы з паэмы: "Спіць усё, а дух сусвету // З духам лучыцца зямлі...", прамоўленыя Сымонкам падчас сустрэчы з Ганнай. Коласаўская гераіня, паводле мастацкай канцэпцыі паэмы, — усасабленне ідэі Вечнай Жаноцкасці, што разам з ідэалізацыяй прыроды нараджае адчуванне паўнаты быцця, гармоніі Сусвету.

Даследчык разважае над такімі няпростымі праблемамі, як пашырэнне і паглыбленне ролі эстэтычнага ў сістэме мастацкага твора, ролі нацыянальнай інтэлігенцыі ў выпрацоўцы духоўных каштоўнасцяў, пошуку духоўных арыенціраў, месца мастацкай умоўнасці, спрабуе па-новаму раскрыць метадалагічна-пазнавальныя прынцыпы і структурна-арганізацыйныя асаблівасці твораў, за сімволіка-алегарычнымі карцінамі ўбачыць іх гуманістычна-філасофскую сутнасць.

В. Жураўлёў слушна даводзіць, што традыцыя актыўна ўплывае на літаратурны працэс, напрамую ўдзельнічае ў фарміраванні аблічча літаратуры, у вызначэнні яе эстэтычных дамінантаў, у паглыбленні яе псіхалагізацыі. Усё гэта было абумоўлена ўнутранай патрэбай развіцця нацыянальнага мастацкага слова і сведчыла пра ўваходжанне літаратуры ў паласу мастацкай і духоўнай сталасці.

З пазіцый канкрэтна-гістарычнага падыходу і гуманістычных прыярытэтаў аўтар закранае і "старое" пытанне рэвалюцыйнасці і дэмакратызму ў творах Я. Купалы і Я. Коласа, знаходзячы шэраг важкіх аргументаў, якія сведчаць на карысць далейшага яго вывучэння.

Сам падыход да навуковай інтэрпрэтацыі канкрэтных мастацкіх твораў у кантэксце пэўнай гісторыка-культурнай эпохі вызначаецца шматмернасцю, рознахарактарнасцю, адметным ракурсам бачання.

Кніга В. Жураўлёва яшчэ раз засведчыла, што асэнсаваць шматстайную, стракатую, шмат у чым супярэчлівую рэчаіснасць магчыма толькі праз праўдзівасць выяўлення характару, псіхалогіі, чалавека. Менавіта таму літаратура XIX — пачатку XX стст. станавілася самаадкрыццём, самапазнаннем самога народа на новым вітку яго гісторыі.

**Валерый МАКСІМОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**дацэнт кафедры беларускай**
**літаратуры XX ст. БДУ**

**ЗМУШАНЫ ЭКСКЛЮЗІЎ**

# ТРАЕКТОРЫЯ БЛУКАННЯЎ І СУПРАЦІЎНАГА РУХУ

Эпоха эстэтычнага міжчасся правакуе творцу на "эмацыйна-пачуццёвы эксгібіцыянізм": адны аўтары задавальняюцца цнатліва-какетлівым "стрыптызам", другія чэрпаюць натхненне ў "брутальнасці" адчуванняў, трэція перажываюць экстаз, эпатуючы ды шакіруючых носьбітаў унармаванай маралі – пакідаючы "шнар... на твары свету" (Г. Мілер)... Варта заўважыць: размова не столькі пра хваравітую цягу да цялеснай аголенасці (у нашым кантэксце – актуалізацыю ў літаратурна-мастацкім полі (неа-)натуралісцкай эстэтыкі), колькі пра надзвычайную ўвагу сённяшніх пісьменнікаў да "фізіялогіі пачуцця". Апошняе, напэўна, вымагае ад творцы яшчэ большай адвагі, бо ў маналітна-магутнай свядомасці "шырокай чытацкай аўдыторыі" вобраз галоўнага персанажа ці я-героя стала праецыруецца на маральны воблік самога аўтара.

Творы Вольгі Куртаніч справакаваныя эпохаю – міжчассем, міжсезоннем, міжбыццём у тлуста-галінастай Н Я П Э Ў Н А С Ц І.

Яе паэзія здаецца мне кампрамісам з беспадстаўнасцю жыцця: аўтар апранае лірычнага героя ў "маньерыстычна-ракакошна-ампірныя" тропы, з энтузіязмам упрыгожвае імі свой паэтычны космас, нібы хаваючы за шыкоўным арнаментам, дэкаратыўнаю "ляпнінаю" татальна-глабальную разгубленасць, і адчай, і адзіноту. Рускія вершы, як на мой густ, згаданымі тропамі перанасычаныя (напрыклад, зборнік 2001 года "В блистании строк..."), у арыгінальных беларускіх вершах той "арнаменталізм" паўстае значна больш натуральным, умеркаваным – параўнайце з цыклам вершаў "Валавуд" у "ЛіМе" за 13 верасня 2002 года). Таму і злосць альбо раздражнёнасць у г э т а й мастацкай прасторы ўспрымаюцца часткаю рытуалу: сусветная самота нібы "замацаваная" ў эстэтычнай норме.

Яе проза ўяўляецца мне формаю супраціву эпосе і адначасова пэўным выклікам мастацкаму канону айчыннага – грунтоўна-салідна-прыстойнага – "прыгожага пісьменства". У гэтым супрацьдзеянні, хадзе "супраць плыні" няма і ценю дэманстратыўнай капрызлівасці "ейnfant terrible": ідэйна-эстэтычныя пошукі, логіка аўтарскай творчасці (і стваральнасці) вынікаюць з першаснага непрымання тыповасці (прадмета, з'явы і асабліва пачуцця) як у с я р э д н е н а с ц і, той "дурной паўтаральнасці", растыражыраванасці жыццёвых праяў і вобразаў, праз якую страчваецца каштоўнасць пакутлівай, апрыёрна простай – і найскладанай – асалоды б ы ц ь.

"Залюстрэчча для Алісы" (1994, 1996) – жанр вызначаны празаікам як "раман-парафраз",– узнікае на скрыжаванні аўтарскага адмаўлення звыкла-пазнавальнага, прадказальнага, чакаемага (паводле тэматыкі, унутранай будовы, вобразна-выяўленчых сродкаў і г.д.) аповеду – і традыцый выкшталцонай "літаратуры пачуцця". У літаратуразнаўстве парафраз(а) – не блытаць з перыфразам(аю)! – гэта літаратурны тэкст, што з'яўляецца скарочаным ці пашыраным пераказам іншага тэксту. У гэтым сэнсе жанравае наватарства Вольгі Куртаніч паўстае сумніўна паспяховым, бо ўтрымлівае семантыку другаснасці, своеасаблівага "эпігонства". Аднак у кантэксце музыказнаўства парафраз(а) асэнсоўваецца як твор віртуознага характару на адну ці некалькі запазычаных тэм, што аздабляюцца і вар'іруюцца (прычым асобныя варыяцыі звязваюцца паміж сабою разнастайнымі пераходамі, пасажамі).

"Раман-парафраз" Вольгі Куртаніч адмыслова спалучае супраціў (эпосе) і гульню (з ёю ж): так, інтэртэкстуальнасць ("меч" і "арала", "клюшка" і "коўзанка" постмадэрну) адразу ж выразна акрэсліваецца ў якасці вызначальнага сюжэтна-кампазіцыйнага прынцыпу. Аднак настроенасць на другаснасць аповеду (прадчуванне "паразітарных" стасункаў з творамі Л. Кэрала) нейтралізуецца ад самага пачатку разгортвання аповеду: бо гульня (на розных узроўнях індывідуальна-аўтарскага стылю) ніколі не азмрочваецца нематываванаю альбо навязліваю гульлівасцю, а пачуццёвасць тут ніколі не асацыіруюецца з легкаважнасцю ці таннасцю.

Паэтыка дзівацтваў у "Залюстрэччы для Алісы" зніто̄ўваецца з паэтыкаю дзівосаў – блуканні сярод звабна-тлумнага кірмашу, які адначасова ёсць дзея, лабірынт, імгненныя люстрункі, зліццё вечнасці з нябытам.

Зрэшты, у прозе Вольгі Куртаніч адсутнасць пэўнасці (што ўсведамляецца як атмасфера, скразная "музычная" тэма, усюдыісны і з цяжкасцю вербалізуемы матыў) – зусім не нагода для апатыі; гэтаксама ў хаосе с к р о з ь бязладнасць, какафонію заўважаецца адмысловае суладдзе, гармонія няправільнасці. У аповесці "Па вузкай дарозе ў цесную браму" (1997) "бязмэтны" рух ("Мы ехалі ў Сафію: ён – дадому, я – у нікуды"; "Што раблю я тут, у незнаёмым горадзе, я, жанчына, якая прагне вясны?") заварожвае менавіта сваёю непрадказальнасцю, "непраграмуемасцю" наступнага – аўтарска—сааўтарскага (чытацкага) кроку: "Гісторыя паўторыцца наноў. У марах, успамінах, наяве – тое яшчэ не ведае ніхто з вас. <...> Хроніка апошніх дзён завершыцца абдымкамі на вакзале; паводле злой іроніі, цягнік прыбудзе ўвечары, у той час, калі размытыя цені падкрэсляць прысутнасць чорных постацяў; жалоба скончаная! – крыкну ў адкрытае вакно, але ніхто не зразумее, хіба што нехта адзін, а можа..."

У "індывідуальным" (адзінкава-універсальным) космасе прозы Вольгі Куртаніч шматкроп'е – як штандар збройнага чыну, сімвалічная выява аднаго прыватнага "Дрэва Сусвету". Бо ад яго ратуюцца яе героі, але і ў ім, шматзначна-няпэўным, ратуюцца. [У апавяданні "У прымрак самоты, у звабны адчай" (1995) тыя "ўцёкі" дэкарыраваны пастаральнымі пейзажамі, у п'есе "Ружы для чужога каханка" (1994) – класічна-авангарднымі "геаметрычнымі фігурамі" (Ён – і Яна, г. зн. сяброўка, жонка і пляменніца сяброўкі ), у аповесці "Эдэм пачынаецца летам" – бліскавіцамі багемнасці .]

«Агасферавым кляйном» – напаўсцёртым ці свежавыпаленым, – пазначаны, побач з іншымі героямі, Запознены з аповесці «Распусніца, альбо Чырвоная Шапачка са Швальмштата» (2000-2001). Часам ён Уладальнік, часцяком Няўдачнік – р а с к р о п л е н а с ц ь, раскрыжаванасць яшчэ аднаго лёсу на ростанях Долі: «Горад клікаў, але без указальнікаў...<...> Запознены азірнуўся, ён згубіў перспектыву быцця; побач мастак маляваў нямецкі пейзаж вечаровага горада, сонца садзілася за статую незнаёмага пакутніка, жыццярадаснасць змрочнага быту...".

У прозе Вольгі Куртаніч пахі – уцялесненыя, гукі – пластычныя, і ўсё аказваецца не тым, чым здавалася пры першым набліжэнні, і аўтар рухаецца не ў кірунку звыклых чаканняў чытача, а супраць іх, нават супраць сябе, насуперак сваім абяцанням. [Такая проза не прадчуваецца ў яе вершах – хутчэй, паўстае контраргументам, надзвычай пераканаўчымі ў сэнсе паэтычнасці.]

Неістотная, але неабходная заўвага: кніга прозы Вольгі Куртаніч, якую складаюць раман-парафраз "Залюстрэчча для Алісы", аповесці "Па вузкай дарозе ў цесную браму", "Распусніца, альбо Чырвоная Шапачка са Швальмштата", "Эдэм пачынаецца летам", апавяданне "У прымрак самоты, у звабны адчай", п'еса "Ружы для чужога каханка", існуе ў віртуальным (камп'ютэрным) і рукапісным (самая, пэўна, бессмяротная – шкада, толькі "метафізічна" даступная, – "інкарнацыя" тэксту) фарматах.

Разнапафасна засведчаны на розных грамадска-дзяржаўных узроўнях крызіс беларускага кнігадрукавання, такім чынам, аб'ектыўна спрыяе ўзрастанню ролі, пашырэнню ўплывовасці крытыкі (ці, прынамсі, яе герменеўтычнай фракцыі): калі нічога не зменіцца, і дасць Бог крытыку ногі, як таму ваўку, і жвавасці, і інтэрпрэтатарскага імпэту, дык у хуткім часе ўся найноўшая беларуская літаратура будзе даступная Вам, вельмішаноўны Чытач, у чужым эмпірычным вопыце. [Sapienti sat?*]

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

---

*Разумнаму дастаткова (лацін.)

*было пакараннем расстанне.*
*Будзённасць знішчае паэзію,*
*як здрада — каханне".*

Тым больш крыўдна, што ёсць жа, ёсць у кніжцы і шмат вартых увагі вершаў. І калі б іх вызначыць, адабраць і скампанаваць пад адной вокладкай, то атрымаўся б арыгінальны і адметны для сучаснай жаночай паэзіі зборнічак паэзіі... На жаль, гэтага не здарылася. Але яшчэ не позна тое зрабіць пры перавыданні альбо кампанаванні рукапісу новай кніжкі. Бо вельмі шкада, калі паэтычныя залацінкі патрапляюць ва ўжо запарушанае зямным пылам вока... Як вось гэтая хоць бы:

*"Перажыві маё знікненне*
*з твайго пакутнага жыцця,*
*бо не ўваскрэснуць з небыцця.*
*Перажыві маё знікненне.*
*Шлю Богу я свае маленні,*
*каб даў табе моц забыцця.*
*Перажыві маё знікненне*
*з твайго пакутнага жыцця."*

Ёсць у гэтай кніжцы, пазначаны як верш, і такі дасціпны афарыстычны выраз:

*"Дасягнуць дасканаласці*
*дапаможа*
*дысцыпліна думкі"*

Трэба зазначыць для неабазнаных, што сама Таццяна Барысюк скончыла аспірантуру БДУ і працуе ў Інстытуце літаратуры імя Я.Купалы НАН Беларусі. Таму няма нічога дзіўнага, што нярэдка яна рытмізуе і заключае ў моцныя абдоймы рыфмаў тыя літаратуразнаўчыя і філасофскія тэорыі, якія налепш падлягалі б навуковаму здумленню, хоць, прызнаем, што пасля адпаведнай літаратурнай апрацоўкі яны і набываюць нечаканую лірычную акрасу...

Вось чаго няма, як тое зазвычай бывае ў паэтычных кніжках, выдадзеных у няпрофільных недзяржаўных выдавецтвах, дык гэта граматычных і розных іншых моўных памылак. Vivat! карэктарцы Наталлі Кучмель (дарэчы, вельмі чуйнай да прыгожага слова самапрыцененай нашай паэтцы, на "руках" якое выпеставалася цэлая кагорта выбітных сучасных вершатворцаў). Зрэшты, не забудземся і на адукацыйны цэнз самой Таццяны Барысюк.

Бывае так, што, як бы між іншым, занурыўшыся ў вершаваны зборнік невядомага табе аўтара, нечакана для сябе атрымліваеш чытацкае задавальненне не толькі ад паэзіі, але і ад самой чалавечай шчырасці і арыгінальнай натуральнасці неардынарнай аўтарскай асобы, што праяўляецца то тут, то там, не хаваючы сваёй бессаромнай галізны і сама не хаваючыся ў чужыя строі... Што ж, паэту многае дазваляецца дзеля высокага апраўдання:

*"І кожны грэх яго перагарыць,*
*бо творчасць яму дорыць*
*ачышчэнне.*
*Паэту дазваляецца грашыць*
*у пошуках кахання і натхнення."*

Ну як тут не ўспомніш Анатоля Сыса:

*"Ніхто не мае права біць Паэта,*
*ён нават сам не вольны над сабой,*
*магчыма, ён адзіны на паўсвета,*
*а вы за ім нібыта за гарой."*

Аднак і Анатоля Ціханавіча таксама ўспомніш:

*"А Муза змрочная маўчыць,*
*а салаўі галосяць,*
*а пад паэта закасіць —*
*лягчэй чым сена косяць."*

І многія сёння, трэба сказаць, намагаюцца касіць. Не сена, вядома. Нашай паэткі гэта наўпрост не тычыцца, але ўсё ж для многіх іншых абазначу гэтую тэндэнцыю наўзбоч тэксту.

Трэба аддаць належнае адчайнай смеласці Таццяны Барысюк (але не ганарыстай саманадзейнасці, як тое здараецца з некаторымі маладымі "першакласнымі" і першакніжнымі аўтарамі). Не каму-небудзь, а такому — яшчэ раз прабачаюся за асабістае выпучванне — строгаму суддзі, як мне, падаравала яна свой творчы "Аўтапартрэт", пэўна ж, з разлікам на мой суб'ектыўны, але справядлівы крытычны водгук.

Што ж, вось ён... Спадзяюся на зразуменне.

**ЛеГал**

# ПРЫСВЕЧАНЫЯ МАКСІМУ ТАНКУ

15 кастрычніка на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта былі праведзены навуковыя чытанні, прысвечаныя 90–годдзю з дня нараджэння Максіма Танка.

Загадчык аддзела ўзаемасувязяў літаратур Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук, кіраўнік групы па падрыхтоўцы Збору твораў Максіма Танка Уладзімір Мархель расказаў пра пошукі рукапісаў, адметнасць і структуры будучага выдання, пазнаёміў прысутных выкладчыкаў і студэнтаў з невядомымі раней яго творамі.

Прафесар Дзмітрый Бугаёў адзначыў шматграннасць таленту паэта, сказаў пра веліч і мужнасць яго як мастака і чалавека, згадаў некаторыя факты асабістых стасункаў з Яўгенам Іванавічам.

Дацэнт Анатоль Верабей прасачыў яго творчую эвалюцыю, непаўторнасць мастацкага свету, успомніў яго падтрымку маладых талентаў.

**А. ВАЙНІЛАЎСКІ.**

НАЎЗБОЧ

# СВЯТЛО АД ЛІХТАРОВІЧА

Калі рэдактар, паклаўшы на мой стол гожы таўсматы зборнік незнаёмага мне аўтара, сказаў: пагартай, мо што напішаш, я так тое напачатку і ўспрыняў: пагартаю — напішу нешта, не першына, вунь, цэлы стос нанеслі самавыданага...

Без малога, спрэс графаманія...

Аднак гэты аўтар "абсёк" маю пыхлівасць і высакамернасць ужо з першай старонкі свайго "АГУЛЬНАГА СШЫТКА"(г.Мінск, ООО "Лекцыя", 2002г., наклад 500 экз.),"напрошаную" ім прадмову да кніжкі ў народнага паэта Р.Барадуліна не ўлічваю, бо аднойчы й самога ўгаварылі на падобную адпіску літровай банкай адборнай заморскай кавы (хоць, як выявілася, у дадзеным выпадку Рыгор Іванавіч— не памыліўся)...

А што паэта "відно" ўжо з заяўкі сумненняў не выклікае.

Так — традыцыйна, стылістычна не нова, але не натужна, самабытна, у суладдзі і гармоніі з унутранай прыродай аўтара. Дый аўтар, як пасля высветлілася, "не лыкам шыты"...

Георгій Ліхтаровіч — вядомы беларускі фотамайстар, мастак па сутнасці душы і светаадчуванні... Я наватпаспеў з ім на адыходзе з рэдакцыі перакінуцца матчыным словам... Георгій Леанардавіч — чалавек самасны, творчы, свядомасна завершаны адносна свайго грамадскага, сацыяльнага і нацыянальнага вызначэння. Айчына для яго — святое:

*Той узор, як нябёсы сіні,*
*Што, забыўшыся, тчэ рука, —*
*Мне Евангелле ад Максіма*
*Кветкай сціплага васілька.*
*..................................*
*Што на ростанях — можа, згуба,*
*Можа, новая там зямля?*
*Вестку добрую ад Якуба*
*Спасцігаю я спакваля.*
*А калі знак бяды адчую —*
*Як сякеру у каваля,*
*Я сумленне сваё гартую*
*На Евангеллі Васіля.*

Што і казаць, прафесійнае вершаскладанне. Далёка не кожны наш паэт-"эсбэпіст" здольны на такія ўпарадкаваныя і адначасна непадробныя радкі. Але клас сапраўднага паэта заключаецца ў своечасовай завершанасці кожнага верша: кропка, шматкроп'е, а, у рэшце рэшт, і апошняе слова не павінны задоўжвацца па-за сваім часам і па-за сваёй творчай прасторай... Мастацкае слова, як цеціва, — пружыніць і пры залішняй расцягнутасці, перанапружанасці і фізічнымгвалце над ім можа, як бумеранг, ударыць па сваім гвалтоўным "творцы"... Гэта зрэдчас адчувае і сам аўтар, што яшчэ раз падкрэслівае яго талент і мастацкую класічна-хрэстаматыйную чуйнасць.

А вось тое, што ў зборніку шмат "вершаў пра вершы", паэзію і паэтаў, на мой погляд, адзнака мужнага паэтычнага таленту Георгія Ліхтаровіча. Гэта няпросты роздум над сутнасцю ўласнай паэтычнай творчасці — нейкім чынам сумненне перад сваёй абранасцю і дадзеным звыш наканаваннем... Чалавек з узвышаным духоўным светам і ранімай душой як бы загадзя адпакутвае "на крыжы" сваёй будучай ці магчымай "галгофы"... Гэта і начная ўнутраная шліфоўка сцвярдзелай слоўнай пароды — жорсткія жорны перамолу — дзеля белага змучанага сэнсу жыцця. Верш напісаны такім мучным пылам — і ёсць хлебам паэзіі...

Як да прыкладу гэтыя строфы:

*Ну паспрабуй у шэрасці стварь —*
*Я не кажу пра верш — радок*
*не шэры.*
*Чысцюткі на стале лісток паперы,*
*І стома кліча ў сонныя віры...*
*І я ў Сусвет цнатліва-трапяткі*
*Таропка расчыняю Музе дзверы,*
*Але запозна — птушкі, людзі, звеы*
*На цаліку, нібыта на паперы,*
*пакінулі дакладныя радкі...*

Даўно ўжо не атрымліваў я такой душэўнай насалоды ад беларускіх вершаў невядомага, больш за тое, немаладога аўтара. Дарэчы, ён і пісаць то пачаў толькі пяць гадоў таму, хоць я такому яго прызнанню ані не веру (зрэшты, як не верыць многія і ў маё закінутае вершаванне).

Што ж, — няхай гэта будзе ўрокам прафесійнага майстэрства маладзейшым, і чарговым сцвярджэннем таго, што душа не старэе, а дух — вечны, што:

*Бог зноў да творчасці заве!*
*Бог верыць чалавеку!*
*На Беларусі Бог жыве.*
*І хай жыве.*
*Давеку!*

**ЛеГал**

ПАЭЗІЯ

**Алесь БАДАК**



# ЭМІГРАЦЫЯ

### паэма

**1**

*"У гэтым свеце больш дабра*
*ці зла?" –*
*Калі ў сябе я ўпершыню спытаўся,*
*Я зразумеў: пара журбы прыйшла,*
*Пара, калі ў душы ўсё менш*
*святла.*
*Адказ па-за свядомасцю застаўся.*

*Здавалася, я сам яго стварыў,*
*Мой белы свет – якім хацеў*
*і бачыў.*
*Але і сонца грэе да пары.*
*Сябры – яны й цяпер мае сябры,*
*А ў сэрцы адзінота горка плача.*

*Ідзі сабе самому растлумач,*
*Як жыць далей, калі ўсе дні –*
*бы ночы,*
*І як цяпер суцішыць гэты плач,*
*І паспрабуй што-небудзь перайнач,*
*Калі душа не знае, чаго хоча.*

**2**

*І вось калі здавалася: змяніць*
*У гэтым свеце нельга ўжо*
*нічога, –*
*Як зоркі, заблішчэлі камяні,*
*Крыштальны звон узнік у цішыні*
*І раскруцілася да ног дарога.*

*Я на яе няўпэўнена ступіў*
*І, покуль мог, абачліва ўзіраўся*
*У далеч, ды мяне завараажыў*
*Нябесны звон, што над дарогай*
*плыў.*
*І я ўжо анічога не баяўся.*

*Ішоў, і найдзіўнейшая з дарог*
*Гублялася пад шапкай-аблачынай,*
*І зорны пыл выкочваўся з-пад ног.*
*І з ніадкуль узнік чужы парог,*
*І дзверы адчыніла мне жанчына.*

*І стала ясна: слова "прыгажосць"*
*Таемны сэнс не ўвесь дасюль*
*я ведаў.*
*Мяне жанчына бачыла наскрозь.*
*— Заходзь у дом.*
*І я, далёкі госць,*
*Пакорліва пайшоў за ёю следам.*

*Пакуль ішоў, вужакай у траве*
*Схавалася зваротная дарога.*
*Імгненне прамільгнула альбо век,*
*І мне адкрыўся незнаёмы свет,*
*Што пачынаўся за чужым*
*парогам.*

*Адкрыўся свет, нязведаны раней –*
*Утульнасці дамашняй і дастатку.*
*Мігцелі зоркі зыркія ў віне,*
*І я паверыў: ісціна на дне*
*Напоўненага келіха. Спачатку*

*На дне знайшоў я ад журбы і бед*
*Ратунак – і адразу іх пазбыўся.*
*Пасля на ім убачыў я свой свет,*
*Дзе вечна абяздолены паэт,*
*І кінуў келіх, каб той*
*свет разбіўся.*

*Я не хацеў вяртацца больш назад,*
*Да лёсам неацэненае працы,*
*Да векам напрыдуманых пасад.*
*Хто я цяпер? Звычайны*
*эмігрант –*
*Не плоццю, а душой у эміграцыі.*

**3**

*— Вось і тваім цяпер стаў*
*гэты дом, —*
*З усмешкаю сказала мне жанчына.*
*І людзі незнаёмыя кругом*
*У доме зашумелі. За акном*
*Пачаў пейзаж мяняцца безупынна.*

*То горы мільгацелі, то сады.*
*То гарады, то вёскі праляталі.*
*— О, любая, імчымся мы куды?*
*І мовіла жанчына мне:*
*— Туды,*
*Куды яшчэ ніколі не траплялі;*

*Жыццё – манета звонкая. Не той*
*Багаты, хто яе хаваў да скону,*
*А хто на кон паставіў,*
*каб гульнёй*
*Праверыць вартасць сутнасці*
*сваёй,*
*Як брату, давяраючыся кону.*

*Ляцелі на гару мы і з гары,*
*І дом крылаты патанаў у гудзе.*
*Спытаў я:*
*— Гэта ўсё твае сябры?*
*— Хіба ў сяброў ёсць*
*час пагаварыць?*
*А тут – усё патрэбныя нам людзі.*

*І сталі то з'яўляцца, то знікаць*
*Мяцежных дзён часовыя героі.*
*Я іх не паспяваў запамінаць*
*І кожнага асобна прывітаць,*
*Як іншыя заходзілі ў пакоі.*

*Былі незразумелыя зусім*
*Мне іх сакраментальныя размовы.*
*І мовіла жанчына:*
*— Стань такім,*
*Як і яны, і ўвойдзе назусім*
*У кроў і памяць кожнае іх слова.*

*І я душой і плоцю на вачах*
*Пачаў мяняцца, як яна хацела.*
*Але былое часам па начах*
*Іголкай варушылася у снах.*
*Я прачынаўся – і душа смылела.*

*І я ішоў нячутна у пакой,*
*Дзе стол і пёры з золата і срэбра.*
*Нябесны дух схіляўся нада мной.*
*Ды заставалася душа пустой,*
*І чыстай заставалася папера.*

*Кахання разняволены віхор*
*Кружыў нас над зямлёю,*
*а на золку,*
*Калі змаўкаў анёлаў срэбны хор,*
*Над любай апускаўся сну шацёр,*
*Я адчуваў – варушыцца іголка!*

*І зноў ішоў нячутна у пакой,*
*Дзе стол і пёры з золата і срэбра.*
*Нябесны дух схіляўся нада мной.*
*Ды заставалася душа пустой,*
*І чыстай заставалася папера.*

*Я рваў яе ў адчаі і паліў.*
*Я ўзненавідзеў гэты колер белы.*
*Нібыта мову родную забыў*
*І толькі гукі дзіўныя лавіў,*
*Ды іх душа мая не разумела.*

*І далеч павярнулася спіной,*
*І, што пакінуў назаўжды*
*ў мінулым,*
*Паўстала раптам зноў перада*
*мной,*
*Зусім неспадзяванаю тугой*
*Душу маю пацiху агарнула.*

**4**

*І пачала туга ўва мне расці,*
*І стала вырывацца ў свет*
*бяздонны,*
*І запаўняць яго ва ўсе канцы.*
*...Я папрасіў жанчыну:*
*— Адпусці!*
*Я загасцяваўся ў гэтым дзіўным*
*доме!*

*— Няўжо забыў, — усклікнула*
*яна, —*
*Як беднасцю сваёй не раз*
*быў біты?!*
*— Я не забыў, я помню ўсё, аднак*
*Яшчэ цяжэй, калі душа няўзнак*
*Становіцца здаволенай і сытай.*

*— Хіба цяпла, пяшчоты, радасці*
*Табе не даставала ў доме гэтым?*
*— Такой, як ты, мне болей*
*не знайсці,*
*Але не ў мроях светлых, а ў жыцці*
*Агонь кахання – згуба для паэта.*

*Пусці мяне ў мой неспакойны*
*свет,*
*Далёкі ад Нью-Йорка і Парыжа.*
*У свет, дзе дастаткова зла і бед,*
*Дзе вечна абяздолены паэт,*
*У свет, які і сам я ненавіджу.*

*І, можа быць, настане дзіўны час*
*І межы паміж светамі сатруцца,*
*І згіне ўсё, што раздзяляе нас,*
*І я скажу:*
*"Я не забыўся Вас,*
*І так хачу ў Ваш дом*
*ізноў вярнуцца".*

*Ах, не вярнуцца, Бог мой, запрасіць*
*Букетам руж у кошыку з запіскай*
*Цябе ў мой свет хоць крыху*
*пагасціць,*
*У свет, які ты зможаш*
*палюбіць, —*
*Змяніўшыся, табе ён стане*
*блізкім.*

*І я пачуў задумнае:*
*— Ну, што ж,*
*Нікога тут няволіць я не смею.*
*Ты выбраў сам, дзе лепш тады,*
*дзе горш.*
*Я не віню ні ў чым цябе, і ўсё ж*
*Зусім цяпер цябе не разумею...*

**5**

*І я ступіў нясмела за парог.*
*І ўжо травой прабітая дарога*
*Паволі раскруцілася да ног.*
*Што я сказаць на развітанне мог,*
*Калі не значаць словы*
*больш нічога?!*

*Пакуль ішоў, усё глядзеў назад,*
*Як з далягляддам дом яе зліваўся.*
*Дарожны пыл, мой выпадковы*
*брат,*
*То радасна ляцеў за далягляд,*
*То да мяне зажураны вяртаўся.*



## ДАРОГА Ў ПЕКЛА

Сярод ночы ён раптоўна прачнуўся: прысніўся страшны сон. Быццам ён у той страшнай ваганетцы. Колы рытмічна пастукваюць на стыках вузкакалейкі, ваганетка коціцца туды, дзе — смерць... Чалавек адчуў: задыхаецца. Вось-вось ваганетка ўкоціцца ў пашчу печы, назва якой — крэматорый...

З халоднымі кроплямі поту на ілбе і скронях чалавек прачнуўся. Адчуў, як шалёна б'ецца ў грудзях сэрца. У апошні час яно працуе з перабоямі: то затрапеча, як птушка, якая трапіла ў сіло, то замірае. І тады чалавек ліхаманкава шукае на століку, калі знаходзіцца ў пакоі, лякарства... Побач ціха спала жонка. Ён не стаў яе будзіць. У апошнія гады яна старалася не адпускаць яго аднаго: баялася, што прыступ можа нечакана зваліць дзе ў лесе ці ў аўтобусе.

Ён ціха ляжаў і прыслухоўваўся да шалёнага рытму сэрца. Здаецца, пачало супакойвацца. А ён з глыбіні памяці вылучыў той страшны дзень, калі ў перапоўненай камеры іх — вязняў — па вузкакалейцы адпраўлялі ў крэматорый. Над страшным будынкам суткамі дыміў усечаны комін. Часам, калі вецер дзьмуў у бок іхніх баракаў, людзі адчувалі, чым пахне смерць. Цяпер вось дайшла і да яго чарга. Мерна пагруквалі па стыках рэек колы: "стук-стук, стук-стук". Усё бліжэй да канца...

І раптам... Здарэецца ж такое ў жыцці! Ваганетка спынілася. Нехта выключыў рубільнік. Патухла на ўсёй тэрыторыі Асвенціма святло. Усё на момант замёрла. Азвярэлыя вахманы пачалі дубасіць палкамі зняволеных — зноў заганяць у баракі.

— Хутчэй! Хутчэй! Шнэлер! — раўлі яны.

Але людзі і без прынукі ляцелі да сваіх нараў, быццам за імі гналіся азвярэлыя аўчаркі. Далей ад дарогі ў пекла, ад дарогі ў небыццё...

Колькі ж мінула гадоў? Чалавек не любіў успамінаць тыя страшныя дні, дарогу ў крэматорый. Але вось зноў тое прыйшло да яго ў час сна. Ён ляжаў і ціха радаваўся: мусіць, усё ж шчаслівыя былі яны — тыя, хто стаяў тады з ім у ваганетцы. Больш у ненажэрную печ іх не везлі. Яны дачакаліся вызвалення. А ён з жонкай выгадаваў дзяцей і цяпер ціха і спакойна заканчваў свой век.

## ПАМЯЦЬ

Што застаецца ад чалавека на зямлі? Звычайна, тое, што паспеў ён зрабіць, што пакінуў людзям. Ёсць, вядома, такія, якія аж са скуры вылузваюцца, каб дагадзіць начальству, робяць усё, каб заўважылі, вылучылі, павысілі ў пасадзе. Ды звычайна на іх забываюць, як выкрэсліваюць людзі з памяці злыдняў і скупых, што не толькі не выручаць чалавека з бяды, а гатовы яго, як у народзе гавораць, утапіць у лыжцы вады...

Звычайна ранняй вясной я прыязджаю ў сваю вёску. За зіму дом настыў. Даводзіцца прапальваць у грубцы і печы, каб цяпло выганяла з пакояў нежылы дух. У садзе на ліпе, на грушах-дзічках цямнеюць старыя шпакоўні. Колькі ім гадоў?

Яшчэ калі працаваў у рэдакцыі, даводзілася часта бываць на Кармяншчыне ў вялікай вёсцы Літвінавічы. Завучам у мясцовай сярэдняй школе там працаваў мой зямляк Іван Гаўрылавіч Якуш. Чалавек з вулканічнай энергіяй, ён стварыў пры школе музей Лепяшынскага: Пацеляймон Мікалаевіч некалі з жонкай адкрыў у Літвінавічах адну з першых у краіне школ-камун. Іван Гаўрылавіч быў чалавекам з энцыклапедычнымі ведамі. Многія былыя выпускнікі (я ў гэтым упэўнены) з удзячнасцю ўспамінаюць свайго настаўніка і сёння.

Юннаты школы, дзе быў завучам Якуш, зрабілі мне падарунак — змайстравалі некалькі шпакоўняў. Асобныя птушыныя домікі пакрылі нават бляхай.

— Няхай жывуць у іх птахі на здароўе, — пажадаў некалі настаўнік, калі шафёр на грузавіку вёз тыя домікі ў Гомель на Інтэрнацыянальную вуліцу, дзе размяшчалася рэдакцыя, у якой я працаваў.

...Даўно тое было. Няма на свеце ўжо Івана Гаўрылавіча. І ў доме, які ён з братам узвёў уласнымі рукамі (бярвенні па Сожы сплаўлялі аж з-пад Слаўгарада), жывуць чужыя людзі. А добрая чалавечая справа жыве ва ўдзячнай памяці. На галінах дрэў каля свайго сталага жытла бесклапотна пасвістваюць шпакі: радыя, што дачакаліся вясны. Святкуй, прырода! Абуджайся, зямля, ад зімовага здранцвення! І мне яшчэ раз успамінаецца светлы след на зямлі, што пакінуў звычайны чалавек.

# АПАВЯДАННІ-БЫЛІ

***28 кастрычніка Міхасю Даніленку спаўняецца 80 гадоў. Віншуючы Міхася Пятровіча з юбілеем і жадаючы яму і надалей здароўя, творчага неспакою і поспехаў на літаратурнай ніве, прапануем чытачам яго новыя творы.***

## СЕРЖ — АРЫНІН УНУК

Хто ведае: праўда тое ці не? Казалі: некалі адзінокая Арыніна дачка Соня прывезла свайго сына з Германіі. Сяргей, ці як ён называў сябе — Серж, быў галаваты хлопец з рыжай чупрынай, канапацістым круглым тварам. Ён змалку хадзіў набычаны, цураўся аднагодкаў, гуляў адзінцом.

— Вылітага немца прывезла Соня з Нямеччыны, — абгаворвалі адна-вяскоўцы маладую жанчыну.

— Грэх такое казаць, людцы, — заступалася за сваю хваравітую дачку Арына. — Колькі ж яна нацярпелася, бедная, на той катарзе — аднаму Богу вядома... А Сяргейка яе ад знаёмага тэхніка, што на торфазаводзе працаваў. І ў таго ж такая рыжаватая галава.

Рос Сяргей пестуном: маці і бабуля ледзь не трэсліся над ім. А тэхнік той даўно з'ехаў з іхняга раёна.

А цяпер вось, як не стала Соні, Серж прыехаў у вёску да бабулі. Раз са два жаніўся. Але нідзе не працаваў, прапіваў усё, і жонкі ад яго папросту адхрышчваліся. Навалілася нязванае гора на старую Арыніну галаву.

— Вам, бабуля, куды пенсію прыносіць? — звычайна ціха пыталася ў старой паштальёнка Зіна. — Дадому? Ці вы самі зойдзеце на пошту? Можа, ж зноў унучкам што перашляце?

— Нясі, мілая, дадому. Усё роўна злыдзень не дасць мне спакою, пакуль не патраціць усё да капейкі.

Яшчэ калі была жывой Соня, яна атрымала нямецкія маркі. Шэсцьсот дваццаць дойчмарак.

— Схавай, мамачка, — папрасіла Арыну. — Нешта нездаровіцца мне. Як памру, дык хоць будзе на што пахаваць.

— Ды ці ў розуме ты, дачушка? — замахала рукамі маці. — Ці ж можна такое гаварыць?

Як у люстэрка глядзела Соня. Сканала ціха, непрыкметна, як і не жыла ўсё роўна. І дойчмаркі тыя прыдаліся маці, каб прыстойна правесці ў апошні шлях дачку.

А Серж на хаўтурах так напіўся, што заблудзіўся на ўласным гародзе: усё ўзбіраўся на капец бульбы і саслізгваў уніз. Нешта мармытаў пра няшчасную сваю долю і горкае жыццё.

...Цяпер вось Арына чакала паштальёнку і з трывогай сачыла, як унук сноўдаўся па двары і скрыгатаў зубамі.

— Не марнуй душы, нячысцік, — выйшла старая на ганак. — Хутка прыйдзе Зіна — грошы прынясе... Што ты, унучак, будзеш рабіць, як мяне не стане?

— Што? — падняў рыжы апухшы твар Серж. — Жывым лягу поруч з табой у магілу, — і засмяяўся іржавым непрыемным смехам.

## ЗАРНІЦЫ

Сядзім познім вечарам у Лоеве на крутым беразе Дняпра з Паўлам Пятровічам. За спіною ў нас — маленькая лазня, якую зрабіў Павел некалькі гадоў назад. Часам, калі бываю ў гарадку і стачае часу, я таксама паруся на вышараваным да жаўцізны палку. Павел Пятровіч любіць, каб пара заціната дух. Потым я адмовіўся наведваць лазню: падводзіць сэрца.

Бераг Дняпра парос буякамі, ажынай, крапівой і паслёнам. Раней рос добры ляшчыннік, але чамусьці пасох (радыяцыя?), і Павел Пятровіч яго высек.

Павел Пятровіч сядзіць побач моўчкі і зрэдку пацягвае цыгарэту. Над зарэчным берагам, які паступова патанае ў цемрадзі, раптам нясмела палыхнула зарніца.

— Глядзі ты, — дзівіцца сябра, — яшчэ не жнівень, а зарніцы бліскаюць.

Гэта менавіта зарніцы, як сполахі далёкіх агнёў. Грому не чуваць, хоць мы чуйна ўслухоўваемся ў наступіўшую цішыню. Замёрла ўсё: паветра, дальнія лазнікі, густыя кусты крапівы і буякоў. Часам сполахі выхопліваюць прымкнутыя ўнізе ля Дняпра лодкі, нейкія бярвенні, пакінутую шыну ад грузавіка.

— Ведаеш, — уздыхае раптам Павел Пятровіч, — напомнілі мне зарніцы акружэнне.

— А дзе ты ў яго трапіў? — пытаюся я.

— Пад Харкавам, у маі сорак другога.

Аказваецца, былі з ім ў мінулую Вялікую вайну на адным фронце. Нават на адным — Ізюмскім — напрамку. Успамінаем хутары Палтаўскія, станцыю Лазавую, роўны, быццам стол, стэп, парэзаны неглыбокімі балкамі.

Успамінаем і ўспамінаем — быццам спавядаемся адзін перад адным. Абодва ўжо на схіле веку, вось і спяшаемся расказаць пра тое, што носім не адзін дзесятак гадоў на душы, у сэрцы. А бледныя сполахі раз-пораз асвятляюць неба, другі бераг ракі. Там — Украіна. Зямля, за якую некалі ваявалі мы з Паўлам Пятровічам.

...Калі засынаў за дашчатай пераборкай на верандзе ў доме сябра, дык праз сон чуў, як Павел Пятровіч нешта мармытаў, уздыхаў — мусіць, апраўдваўся перад жонкай — сварлівай і няжыўчывай жанчынай. Наўрад ці заснем да самага світання.



**Міхась ДАНІЛЕНКА**

## ЦЫРЛА

Калі ён паяўляўся ў пакойчыку, дзе месціўся аддзел, амаль усіх супрацоўнікаў апаноўваў жах. Даўгалыгі, быццам журавель, у нязменным палітончыку і выцвілым берэце, Цырла клаў на калені цыратавы партфель. Супрацоўніца аддзела з трывогай сачыла, як Цырла пачынаў корпацца ў яго бяздонным нутры.

— Зноў што прынеслі? — цікавілася яна, хоць добра ведала: гэты наведвальнік з пустымі рукамі ў рэдакцыю не завітвае.

Цырла вывальваў на стол цэлую гару вершаў і прыпевак. Яны былі на розныя тэмы, але не трэба было быць вялікім Бялінскім, каб зразумець: у рэдакцыю завітаў, як кажуць, графаман ад Бога. Тут былі вершы пра апошні палёт касманаўтаў, пра кукурузу і буракі, пра тое, што ніяк не давядуць да ладу пешаходныя сцежкі ў гарадскім парку.

— Дык ідзіце ў дырэкцыю парка і скажыце: няхай падмятуць тыя сцежкі, — прапанаваў нехта з супрацоўнікаў.

— Паэтычнае слова, ведаеце, як страляе? — зняў з галавы берэт Цырла. — Не! Трэба друкаваць!

— Але ж гэта, прабачце, звычайная лухта. Толькі зарыфмаваная.

— Мала вы кеміце ў паэзіі! — злаваўся Цырла.

Ён, спяшаючыся, запіхваў у партфель скамечаныя паперы, ляпаў дзвярыма і знікаў:

— Ну вось, пакрыўдзілі чалавека, — ніякавата гаварыла маладзенькая работніца. — Былі ж і сярод самавукаў самародкі. Хоць бы Джамбул, Сулейман Стальскі...

— Эге, куды, галубка, загнула! Цырла так і застанецца Цырлам. Стальскага з яго ніколі не атрымаецца!..

***

Месяцы праз тры-чатыры ў рэдакцыю адзін увішны карэспандэнт прынёс жалезную пакоўку. Майстар выкаваў кветку — звычайны палявы васілёк. Далікатна былі выраблены сцябло, пялёсткі. Нават рубчыкі на лістах памечаны напільнікам.

— Адгадайце, хто зрабіў? — запытаўся ён і сам адказаў: — Цырла.

— Не можа быць!

— Магу паклясціся. На рынку прадае. Мне вось ахвяраваў па старой дружбе. "Шмат, кажа, каштоўнага часу ў вас забраў".

— А што? Вось вам і Стальскі, — засмяялася маладая супрацоўніца.

## КРЫНІЦА Ў ЗРУБЕ

Уласна гэтае месца (а дакладней — правы бераг Дняпра ніжэй Лоева) усеяна шматлікімі крынічкамі. Ідзеш па схіле берага — навокал растуць рэдкія вербы, трапляюцца вольхі — і раптам з-пад зямлі пачынае сачыцца вада. Ступіш некалькі крокаў далей — зноў адчуваеш пад босымі нагамі, як быццам нехта жывы ледзь-ледзь варушыць жвір, пясчынкі. Крыніцы! Вада з нетраў зямлі прабіваецца праз пласты, мкне ўверх. Вакол тых мясцін пачынае зелянець мураўка, часам паяўляецца маленькая азярынка. Але часцей за ўсё крынічка знікае. Яна проста заплывае жвірам, а то якія курортнікі засыпаюць тое месца смеццем...

У адным месцы, калі быў у вёсцы Шчытцы, я ўбачыў добра дагледжаную крынічку. Нехта клапатліва абгарадзіў яе дубовым зрубам. Вада ў збуцвелым зрубе была халоднай: праз зробленае з бярозавай кары карытца яна сцякала на зямлю, а далей сачылася проста ў Дняпро.

— Хто гэта абгарадзіў крынічку? — дапытваўся я ў старажылаў.

— Іванаў дзед.

— Не, Прохар Апанасенкаў.

— Ды не тлумі чалавеку галавы, — пярэчылі іншыя. — Крынічка была спрадвеку ў зрубе.

Я ведаю: у Вялікую Айчынную вайну тут ішлі смяртэльныя баі за высокі правы бераг. Няўжо і тады пульсавала крынічка?

— Была, — пачаў бажыцца Васіль, у якога я спыніўся на пару дзён. — Мне было гадоў восем. Памятаю: нашы байцы, чорныя ад парахавой гары, мыліся тут. Ваду пілі... Можа, таму і не адолелі нас ворагі? Як вы думаеце, Пятровіч?

"А што? Усё можа быць, — падумаў я. — Мо таму і не адолелі..."

ЛІМ-ЧАСАПІС

# «ULIS» ЗАПРАШАЕ

25 кастрычніка ў парк-клубе плануецца неардынарная для аматараў беларускай рок-музыкі падзея — сольны канцэрт легендарнага гурта "ULIS". Нагадаем што гурт, якім кіруе вядомы мінскі гітарысті саўндпрадзюсер Слава Корань, больш за 10 год добра вядомы не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі —



музыкі сапраўдныя куміры беластоцкай беларускай моладзі. Выступленні гурта "ULIS" на Беласточчыне — заўсёды сенсацыйная падзея. У Польшчы нават дзейнічае фан-клуб гурта "ULIS". І вось Слава Корань і яго сябры — бубнач Алесь "Ганс" Быкаў і бас-гітарыст Віктар Самарукаў — вырашылі дабівацца такой жа ступені папулярнасці і ў тутэйшай публікі. Для гэтага музыкі плануюць правесці канцэрт "сапраўднай цяжкай гітарнай музыкі", з выкарыстаннем самай сучаснай гукавой апаратуры, каб давесці мінскім слухачам што такое стандарт якасці гучання рок-гурта. Але не толькі акустычнымі асаблівасцямі прыцягне аматараў "цяжкага" гучання будучы канцэрт беларускага гурта.

Галоўнай яго асаблівасцю будзе тое, што праграма выступлення будзе складзена з лепшых кампазіцый класічных альбомаў гурта "ULIS": "Чужаніца", "Краіна доўгай белай хмары", "Падарожжа", "Люстэрка". Толькі адзін гэты пералік павінен ускалыхнуць самыя лепшыя ўспаміны любога аматара беларускага рок-н-рола. Але акрамя настальгічных момантаў, праграма будучага канцэрта будзе ўтрымліваць і сапраўдныя сюрпрызы — тры песні на вершы Уладзіміра Караткевіча, а таксама, каверы лепшых песень гурта "польскай маладай генэрацыі" "Aya RL"...

Слава Корань паведаміў нашай рэдакцыі што стане добрай падставай для пасляховай "раскруткі" новай фанаграфічнай працы гурта і ступенню да новых творчых узлётаў аднаго з самых неардынарных калектываў беларускай рок-сцэны.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# ДЗЁННІКІ ЮСІФА ГОЛУБЕВА

На днях адбылася прэзентацыя кнігі "Шчасце маё..." :

Дзённікі Іосіфа Голубева (1916—1923)", якая пабачыла свет у гэтым годзе. Кніга расказвае пра падзеі пачатку XX ст. у Мінску і ваколіцах. Адметнасць выдання ў тым, што панарама тых гадоў прадстаўлена адначасова ў двух вымярэннях. З аднаго боку, з пазіцыі рабочага-бальшавіка, які праходзіць эвалюцыю ад перакананага камуніста да цалкам расчараванага ў гэтай ідэі чалавека. З другога боку, перад намі трагедыя галавы вялікага сямейства, любячага бацькі, хрысціяніна, які не можа зразумець і прыняць суровыя рэаліі таго часу, паступіцца сваімі маральнымі прынцыпамі. Перад намі споведзі чалавека, які перажыў трагедыю раздваення душы і, расчараваўшыся ў ілюзорных грамадскіх ідэалах, знайшоў адзінае суцяшэнне, спакой і шчасце ў сваёй сям'і.

Дзякуючы намаганням яго дзяцей і ўнукаў кніга і пабачыла свет.

**Н. К.**

НАДЗЁННАЕ

# КАНСАЛІДАЦЫЯ СІЛАЎ І СРОДКАЎ

Важным і значным пытаннем развіцця культуры ў горадзе Мінску было прысвечана сумеснае пасяджэнне калегіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і гарвыканкама, дзе разглядаўся шэраг праблем, звязаных з рэалізацыяй магутнага патэнцыялу сталіцы як спрадвечнага асяродка духоўных набыткаў нашага народа. Перад прысутнымі выступілі старшыня Мінгарвыканкама Міхаіл Паўлаў, міністр культуры Рэспублікі Беларусь Леанід Гуляка, намеснік старшыні Мінгарвыканкама Міхаіл Пятрушын, першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Рылатка, народны артыст СССР, ганаровы грамадзянін Мінска Расціслаў Янкоўскі, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Міхаіл Казінец, народны артыст СССР Валянцін Елізар'еў, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Тамара Куніцкая, дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М.Горкага Эдуард Герасімовіч, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў, дырэктар дэпартамента па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Васіль Абланскі, прадстаўнікі органаў улады, афіцыйныя асобы. Падчас шчырай і змястоўнай размовы падкрэслівалася, што асноўная задача — кансалідацыя намаганняў, пошук агульных падыходаў да вырашэння актуальных праблем сталіцы ў галіне культуры і мастацтва, ад якіх у значнай ступені залежыць жыццё мегаполіса, развіццё сацыяльна-эканамічных адносін, працэс фарміравання асобы, грамадскі прагрэс. Мінск валодае найбагацейшай гісторыка-культурнай, інтэлектуальна-маральнай спадчынай: архітэктурныя помнікі, музеі, культурна-асветніцкія ўстановы, тэатральна-канцэртная дзейнасць, сузор'е таленавітых, высокаадукаваных дзеячаў мастацтва - - усё гэта вялізны творчы патэнцыял, які мае невычэрпныя магчымасці для развіцця духоўнага жыцця мінчан. Кіраўніцтва горада не падзяляе установы культуры на "свае" і "чужыя". Толькі ў распараджэнні Мінгарвыканкама знаходзіцца каля 100 устаноў культуры і мастацтва, дзе працуе больш за 3000 чалавек. Агульная сума выдаткаў на фінансаванне дзейнасці тэатраў, бібліятэк, школ мастацтва, музычных школ, правядзенне гарадскіх мерапрыемстваў за 9 месяцаў гэтага года склала 7,6 мільярда рублёў. Актыўна рамантуюцца старыя будынкі, узводзяцца новыя аб'екты культуры. Сёлета з дапамогай і пры ўдзеле гарадскіх уладаў адбылося каля 40 культурна-масавых мерапрыемстваў, якія карыстаюцца найбольшай папулярнасцю ў жыхароў сталіцы: свята горада, штогадовы фестываль эстраднай песні і танца "Белая Русь", міжнародныя дзіцячыя фестывалі і іншае. Плённа развіваюцца таксама і міжнародныя сувязі, у якіх бярэ чынны ўдзел гарвыканкам: у Мінску прайшлі Дні культуры Вільнюса, Кіева, Масквы, у рамках якіх была паказана значная колькасць спектакляў, канцэртных праграм, арганізаваны шэраг выстаў у Нацыянальным мастацкім музеі і Палацы мастацтваў, пастаўлены помнікі Аляксандру Пушкіну, Тарасу Шаўчэнку. Паспяхова функцыяніруюць шматлікія бібліятэкі, колькасць чытачоў якіх наўхільна расце і складае каля аднаго мільёна чалавек штогод, дзіцячыя харэаграфічныя, музычныя, танцавальныя школы. З мэтай папулярызацыі і развіцця тэатральнага мастацтва пры мінскім драматычным тэатры "Дзе — Я?" плануецца стварыць першую ў горадзе дзіцячую тэатральную школу. Горад мае таксама аптымальную структуру кінафікацыі і кінапракату, якая дазваляе забяспечыць належную дынаміку развіцця і ўмацавання

# З ЛЮБОЎЮ ДА ДЗЯЦЕЙ

## Погляд псіхолага на дзіцячыя мастацкія выставы

Праблема дзіцячай мастацкай творчасці хвалюе кожнага, хто сутыкаецца з мірам дзяцінства, цікавіцца ім, шукае шляхі і сродкі развіцця творчай асобы. На думку вядомага даследчыка дзіцячай творчасці А. Мелік-Пашаева, вучыць творчасці не варта, але мэтанакіравана і свядома падтрымліваць яго, – неабходна. Можа, таму апошнім часам ладзяцца шматлікія выставы, даючы дзецям магчымасць "і на іншых паглядзець, і сябе паказаць", а нам, дарослым, яшчэ і яшчэ падзівіцца на іх таленавітасць. Выстава гэта той час, калі Душа дакранаецца да іншай Душы, калі Душа вучыцца спасцігаць іншую Душу. І менавіта таму вялікая адказнасць кладзецца на тых, хто арганізуе дзіцячыя выставы. Перад імі нялёгкая задача: зрабіць так, каб выстава стала святам для кожнага ўдзельніка, не толькі для пераможцаў. Напрыклад, добра быў нападжаны конкурс малюнка на асфальце «Ой ты, маё сонца, як жа свеціш ясна!». Яго арганізатары — Беларускі дзіцячы фонд, Беларускі Саюз Мастакоў і Міжнародны фонд Янкі Купалы, адміністрацыя Цэнтральнага раёна. Я адразу адзначыла для сябе дзве рэчы. Па-першае, — узростудзельнікаў (ад 6 да 10 гадоў). Гэта значыць узроставая група, якая носіць назву "малодшы школьны ўзрост". "Прыналежнасць удзельнікаў да адной узроставай катэгорыі з'яўляецца важнай педагагічнай і псіхалагічнай умовай, якая дазваляе больш аб'ектыўна ацаніць дзіцячыя малюнкі. У тым выпадку, калі выстава "рознаўзроставая", найбольш адметныя малюнкі павінны вызначацца ў кожнай узроставай падгрупе, а не сярод усіх удзельнікаў".

Другім момантам, на які я звярнула ўвагу, было паведамленне аб тым, што ніхто не застаецца без падарункаў. Камусьці дасталіся эмблемы ды камплекты каляровай крэйды, камусьці мяккія цацкі альбо кнігі, але адзначаны за ўдзел, за сваю працу былі ўсе. Такая павага да дзіцяці, яго творчасці, яго пачуццяў не можа застацца незаўважанай. Самаацэнка большасці малодшых школьнікаў фарміруецца праз усведамленне імі сваіх поспехаў ці няўдач. Дасягнуў поспеху – значыць я здольны, спасцігла няўдача – значыць няўмелы. Больш таго, для дзяцей гэтага ўзросту, (асабліва для 6-8 гадовых), характэрна тэндэнцыя распаўсюджваць ацэнку сваёй дзейнасці на ацэнку сваёй асобы ў цэлым. Менавіта таму так неабходны развіваючыя і асцярожнасць у ацэнках дзіцячае творчасці, уменне паказаць значнасць працы кожнага дзіцяці.

Аднак зрабіць гэта атрымліваецца не заўсёды. Не так даўно ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі прайшла выстава-конкурс дзіцячага малюнка « З любоўю да Францыі». Наладжана яна была Беларускім саюзам Мастакоў і аддзелам супрацоўніцтва і культуры Амбасады Францыі ў Беларусі. Задума сама па сабе – цудоўная, бо дазваляе больш даведацца аб краіне, яе слынных людзях, як жыцці як у мінулым, так і ў цяперашнім часе. Выпадкова я аказалася на адкрыцці гэтае выставы. Не выклікала сумневу, што арганізатарамі праведзена вялікая праца па яе афармленні і правядзенні. Было і жаданне зрабіць свята, і намаганні немалыя прыкладзены, аднак ці дасягнута была іх мэта? Мяркуйце самі. Адразу зраблю агаворку: я буду казаць толькі пра псіхалагічны бок мерапрыемства.

Вось пачалося знаёмства з выставай. "Глядзі, глядзі, вось мой малюнак!"- чулася то з аднаго, то з другога боку. Аднак сярод нас былі і іншыя дзеці, работы якіх не папалі на выставу. Як яна плакала дзяўчынка, што не знайшла свайго малюнка! Думаю, не ў адной мяне сэрца зайшлося ад жалю. Як вядома, творчая дзейнасць спалучае ў сабе інтэлектуальны і эмацыянальны кампаненты. Таму, калі пакутуе адзін з іх, дык гэта адбіваецца на творчасці ў цэлым. Асабліва вялікая роля эмацыянальнага кампанента ў дзяцінстве. Галоўнае ў мастацтве, па словах вядомага педагога і мастака Б. Неменскага, — гэта выхаванне актыўнай дабрыні, сардэчнасці, разумення. "Праз любаванне да суперажывання, праз суперажыванне да чуласці, праз чуласць да актыўных сацыяльных дзеянняў," — казаў ён. Таму працэс далучэння дзяцей да творчай дзейнасці мае быць так арганізаваны, каб, кранаючы эмацыянальную сферу дзіцяці, ён захочваў яго да дзейнасці. Псіхолаг Л.Выгоцкі адзначае, што пачуцці і ўяўленне- гэта, у сутнасці, адзін і той жа працэс. На яго думку, калі разумець творчасць у яе сапраўдным псіхалагічным сэнсе – як стварэнне новага, — то можна прыйсці да высновы, што творчасць з'яўляецца ўдзелам усіх у большай ці меншай ступені. Яна ж з'яўляецца нармальным станам і спадарожнікам дзіцячага развіцця. Ці ж не патрабуе творчасці ўсё нашае жыццё наогул? Ці ж мастацтва адзіная яе праява? Зразумела, не ўсе ўдзельнікі выставы абяруць для сябе ў будучым шлях мастака, ды гэта і не галоўнае ў дзіцячае выставе. На мой погляд, найкаштоўнейшы яе здабытак – імпульс да далейшых творчых праяў, цікаўнасць да самога творчага працэсу; тая радасць, якую ён нясе ў сабе, усведамленне таго, што "я магу, у мяне атрымоўваецца". Тады і толькі тады творчасць будзе ўзмацняць асобу, пашыраць яе магчымасці. Калі ж удзел у выставе нясе дзіцяці толькі смутак і расчараванне, адчуванне сваёй незапатрабаванасці, дык гэтая акалічнасць можа адштурхнуць ад творчасці. Дарэчы, на кожным з малюнкаў меліся хатні адрас і тэлефон, няўжо ж нельга было паведаміць, чые работы адабралі, а чые – не. І тады б бацькі змаглі ўберагчы сваё дзіця ад гэтых перажыванняў.

Але ж вернемся да самой выставы. Спачатку планавалася, што ў ёй возьме ўдзел большая частка атрыманых малюнкаў, аб чым і былі паведамлены тыя, хто цікавіўся гэтым пытаннем у арганізатараў. Аднак на самой выставе мы ўбачылі каля 100 работ з атрыманых 500. (Між волі ўзгадваецца практыка былых часоў, калі худсавет казаў сваё лёсавызначальнае "быць ці не быць"). Уявіце цяпер, колькі дзяцей пацярпела ад гэтага рашэння арганізатараў. Успамінаецца, як у свой час адзін з кіраўнікоў дзіцячай мастацкай студыі сказаў: " Калі я прымаю дзіця ў студыю, я бяру на сябе адказнасць за яго лёс, за яго творчасць, за яго асобу."Мабыць тыя, хто рыхтавалі гэтую выставу, такой адказнасці перад дзецьмі не адчувалі, бо інакш такое рашэнне было б проста немагчымым. Ці ж у нас мала кінатэатраў, бібліятэк, дзе маглі б на нейкі час размясціцца дзіцячыя малюнкі? Наогул можна было б зрабіць зменную экспазіцыю ці размясціць работы ў самой Амбасадзе, каб "любоў да Францыі" не была ўдзелам абраных. Зразумела, гэта больш цяжка і складана, аднак калі думаць аб падтрымцы дзіцячай творчасці, то інтарэсы дзяцей павінны былі б перамагчы ўсе няўручнасці дарослых.

А вось яшчэ адно назіранне. Да адной з арганізатараў выставы падыходзіць жанчына сталага ўзросту з пытаннем, ці памятае яна малюнак яе ўнука. "Ён быў такі добры, — казала жанчына, — а я яго на выставе нешта знайсці не магу." У адказ яна пачула наступнае: "Гэта той партрэт, які зроблены алоўкам? І не шукайце, яго тут няма, бо ён – дрэнны." Скажыце, ці дапушчальна чалавеку, які займаецца мастацтвам, асабліва дзіцячым, так паводзіць сябе? Я лічу, што незалежна ад таго, які гэта быў малюнак, (дарэчы, хто ведае, што жанчыны размаўлялі аб адным і тым жа малюнку?) так ацэньваць яго нельга! Бо мастацтва, і перш за ўсё дзіцячае мастацтва, патрабуе да сябе любоўнае ўвагі, а не абыякавасці і бестактоўнасці.

З цяжкім сэрцам пайшла я з гэтае выставы. Я ішла і думала, што, мабыць, нездарма ў апошні час усё больш педагогаў і псіхолагаў схіляюцца да той думкі, што каштоўнасць мае матэрыяльны прадукт творчага працэсу, але і сам творчы працэс. Працэс важны ніяк ні менш, (а, можа, нават, і больш), творчага прадукту. На думку вучоных, якія займаюцца праблемамі развіцця творчых здольнасцяў, да ацэнкі дзіцячае творчасці нельга падыходзіць з дарослымі меркамі, ацэньваючы вынік па знешнім прадукце. Калі мы былі дзецьмі, адзначае ў прыватнасці Н. Роджэрс, нас вучылі ўсё рабіць толькі "правільна", як таго жадае настаўнік. І кожны раз, калі хтосьці ставіў адзнакі, калі нехта судзіў тое, што мы зрабілі, і ацэньваў зробленае як "няправільнае", мы перажывалі гэтыя ацэнкі і казалі сабе: "Я не творчы чалавек". Таму Н.Роджэрс лічыць асноўнымі ўмовамі развіцця дзіцяці, псіхалагічную бяспеку, свабоду ад ацэнак і стварэнне клімату псіхалагічнай свабоды: атмасферы дазволеннасці, адкрытасці, гульні і спантаннасці.

Ігнараванне спецыфікі дзіцячай псіхалогіі можа абярнуцца вялікімі праблемамі ў асобасным развіцці дзіцяці і – шырэй – стратай таго творчага патэнцыялу, які пазней мог бы стаць культурна-эканамічным здабыткам нашай краіны.

Усім нам з дзяцінства добра вядомы выраз "мастацтва патрабуе ахвяраў". Але ж няўжо яму патрэбны такія ахвяры?

**Вольга ПАЎЛАВА**

# А ДЛЯ ВЕЧНАСЦІ — БЕЛАРУСЬ...

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адкрылася выстава, прымеркаваная да 75-годдзя з дня нараджэння выдатнага празаіка, публіцыста, крытыка, літаратуразнаўца, грамадскага дзеяча ... - "Алесь Адамовіч. А для Вечнасці - Беларусь. . .".

Колькасць гасцей, якія прыйшлі ў гэты дзень у музей уразіла. Імя Алеся Адамовіча сабрала не толькі літаратараў, але і мастакоў, рэжысёраў, навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў, увогуле беларускую творчую інтэлігенцыю - Янка Брыль, Сяргей Законнікаў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Міхась Тычына, Анатоль Кудравец, Валянцін Тарас, Барыс Луцэнка, Тадэвуш Стружэцкі, Станіслаў Шушкевіч, Арлен Кашкурэвіч, Радзім Гарэцкі, Рыгор Паплаўскі, Уладзімір Гілеп, аташэ Пасольства Японіі ў Беларусі Касіно Го і інш.

Вечарыну адкрыла дырэктар музея Лідзія Макарэвіч, але потым паўнапраўнай гаспадыняй была дачка пісьменніка Наталля Адамовіч. Яна прадастаўляла слова сябрам і калегам свайго бацькі. Успаміны, успаміны, успаміны... Калі ставіць кропку пад усімі выступленнямі, то вынік адзін - Алесь Адамовіч гэта постаць вельмі значная для беларускай культуры, грамадзянін і чалавек з вялікай літары. Потым адбылося знаёмства з выставай, якая з'явілася дзякуючы намаганням супрацоўнікаў музея — Таццяны Захаравай, Святланы Паўлавіцкай, самой Наталлі Адамовіч і мастака Генадзя Чыстага. Матэрыялаў у архіве пісьменніка шмат і ўсе вельмі цікавыя: фотаздымкі, рукапісы, асабістыя рэчы, кнігі. Складаная была праца — адбор экспанатаў для выставы, асабліва для дачкі. Фізічна немагчыма паказаць увесь архіў пісьменніка, бо постаць вельмі шматгранная. Таму спыніліся на асноўных момантах творчасці Алеся Адамовіча. На экспазіцыі прадстаўлены наступныя тэмы. "Я з вогненнай вёскі" (1927-1979) - ваенная біяграфія сям'і, творы "Я з вогненнай вёскі" і "Блакадная кніга". "Шлях да майстэрства" (1945-1977) — Алесь Адамовіч літаратуразнаўца і крытык. "Ідзі і глядзі" (1960-1975) — паказана гісторыя экранізацыі ваенных твораў пісьменніка "Партызаны", "Хатынская аповесць", "Карнікі", стварэнне кінастужкі "Ідзі і глядзі". "Страчаная бессмяротнасць" (1986-1991) - пагроза ядзернай вайны і чарнобыльская катастрофа. "А для Вечнасці - Беларусь" ( 1991- ∞ ) - апошнія гады жыцця пісьменніка, Масква, Глуша, "Vixi".

Выстава атрымалася цікавая як для навукоўцаў, так і для прыхільнікаў творчасці Алеся Адамовіча. Яна прыцягвае ўвагу і з пункту гледжання матэрыялаў, і з пункту гледжання мастацкага афармлення. Вобразы, створаныя мастаком Генадзем Чыстым, уражваюць гледачоў.

Размовы, ужо сяброўскія, вяліся і на самой экспазіцыі, госці і родныя фатаграфаваліся на ўспамін. Сапраўды, адбылося свята - сустрэча з выдатным пісьменнікам і вялікім чалавекам. Здаецца — ён так і жыве сярод нас, бо жывуць яго кнігі. І пакуль беларусы памятаюць імя Алеся Адамовіча, датульі будзе жыць Беларусь. Гэта думка гучала ў выступленні амаль кожнага.

Адкрыццё выставы, здаецца, паставіла кропку ў святкаванні юбілею Алеся Адамовіча, але сустрэча з пісьменнікам, яго творамі працягваецца ў залах музея.

**Вольга ГУЛЕВА**

# САДРУЖНАСЦЬ МУЗ

Паэта Уладзіміра Мазго чытачы добра ведаюць па кнігах для дарослых і для дзяцей, а таксама па многіх папулярных песнях. Багаты плён дало яго супрацоўніцтва з кампазітарамі Леанідам Захлеўным і Эдуардам Ханком, Алегам Елісеенкавым і Уладзімірам Буднікам, Ядвігай Паплаўскай і Мікалаем Сацурам, Паўлам Яроменкам і Зміцерам Яўтуховічам...

А нядаўна ў Цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэцы Мінска адбылася прэзентацыя кнігі Уладзіміра Мазго "Прыгоды марахода". На сустрэчу да юных чытачоў разам з аўтарам прыйшлі яго сябры і калегі па творчасці. Галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура", паэт Уладзімір Марук расказаў школьнікам аб новых кнігах, прачытаў свае вершы. Кампазітар Алег Елісеенкаў выканаў некалькі песень на вершы Уладзіміра Мазго, якія былі цёпла сустрэты прысутнымі.

**Н. К.**

## НА ПАЧАТКУ ШЛЯХУ

**Што, як не творчасць, вымагае ад нас незвычайнай актыўнасці, фантазіі, думкі, пачуцця. І як добра, калі ёсць з кім падзяліцца сваімі духоўнымі здабыткамі, адчуць разуменне і падтрымку, асабліва, калі творца робіць першыя крокі на шляху да вялікага мастацтва. Таму заканамерным і даўно чаканым было з'яўленне ў Беларускім універсітэце культуры творчай суполкі "БУКет", якая 11 кастрычніка мінулага года аб'яднала маладых паэтаў, празаікаў, драматургаў, мастакоў, музыкаў. Пасяджэнні суполкі ствараюць асаблівае жыццё, поўнае натхнення, шчырасці і прыгажосці.**

**Многія букетаўцы сталі на шлях служэння Яе Вялікасці Літаратуры. Збіраючыся, яны не толькі слухаюць і абмяркоўваюць свае творы. Іх вершы ды апавяданні з'яўляюцца пачаткам далейшай складанай працы, абавязковы элемент якой — літаратурная вучоба, знаёмства з творчай пісьменніцкай лабараторыяй, з таемным і прыцягальным працэсам стварэння. Маладыя літаратары спрабуюць сябе ў розных жанрах і стылях, шукаюць сродкі выказаць асабістыя перажыванні як у мастацтве, так і ў паўсядзённым жыцці. Выносячы свае творы на шырокую чытацкую аўдыторыю, яны спадзяюцца на спагаду і добразычлівасць — гэта так важна для пачынаючых пісьменнікаў.**

**Наталля ДЗЯНІСАВА**

### *Наталля СМЕРЦЕВА*



***

*Горыччу ветра на вуснах тваіх*
*Стыне дыханне нясцерпнага болю.*
*Не раздзяліць мне твой лёс на дваіх,*
*Ды і не возьмеш мяне ты з сабою.*
*Хай сівізною гады ляжаць —*
*Сэрца дарогу табе падкажа.*
*Буду заўсёды цябе чакаць,*
*Колькі між намі шляхоў не ляжа.*
*Толькі б вяртання настала пара,*
*Голас, да болю родны, знаёмы,*
*Ціха б сказаў: "Прывітанне, сястра,*
*Бачыш, жывым я вярнуўся дадому..."*

### *Вольга ГРАЧОВА*



**Фіялкавы дождж**

Кропля... Яшчэ адна, і яшчэ... Нарэшце неба выбухнула буйнымі бясконцымі струменямі. Яны самазабыўна нясліся праз паветра да зямлі, імкнучыся зліцца з ёй, напаіць яе пахам аблокаў, навальніц...

...Я ішла, апранутая ў дождж. Фіялкі, якія сарвала на тым лузе (памятаеш той луг?) зусім намоклі, але не страцілі свой срэбны водар. І дождж так пахне. Ты мне казаў гэта...

І зараз, калі ты так далёка, калі я ўжо не адчуваю тваё цяпло, фіялкавыя струмені нясуцца вакол мяне і пяюць пра неба.

Я ішла ўсё цішэй, цішэй, бо ведала, што зараз з'явіцца тая лавачка, да якой ты заўсёды нёс мяне на руках. Памятаеш, я спачатку так баялася, што ўпаду? Але потым палюбіла адчуваць сілу тваіх рук і, прыхінуўшыся галавой да грудзей, слухаць тваё сэрца. Дождж таксама сціх, нібы адчуў мяне. Шум ручаёў знікаў, знікаў...

Кропля... Яшчэ адна... Яшчэ...
І толькі фіялкавы вецер гуляе...

### *Уладзімір ЛІСОЎСКІ*



**В. К. Л.**

*Верасень. Кастрычнік. Лістапад.*
*Не праклёны дорыць, а паклоны.*
*І пад колер польскае кароны*
*Золатам рудым прыбраўся сад.*

*Верасень. Кастрычнік. Лістапад.*
*Лісце. Вальсы. Панны. Кавалеры.*
*Грунвальдскія коні і жаўнеры.*
*Стрэлы. Крыкі. Выбухі грамат.*

*Верасень. Кастрычнік. Лістапад.*
*З белай пенай крывіцкія коні*
*Капытамі у ліхой пагоні*
*Білі двухгаловых арлянят.*

*Верасень. Кастрычнік. Лістапад.*
*Лісце тоне ў лужыне вайны.*
*Хай жыве Літва і ліцвіны.*
*Хто наш бацька? Хто нам родны брат?*

*Верасень. Кастрычнік. Лістапад.*
*У Нясвіжы лісце падпаліў,*
*Сочаць за Барбарай Радзівілы.*
*Род магутны, шляхта, род-магнат.*

*Верасень. Кастрычнік. Лістапад.*
*Дождж на вецер словы не кідае,*
*Залівае сэрца, залівае.*
*Час мінуў? Час вернецца назад!*

*Верасень. Кастрычнік. Лістапад.*
*Вера... Кас... Ліс...*
*В... К... Л...*
*В. К. Л.*

### *Алег АЛЕКСА*



**Аскепкі**

**intro**

*Рэчаіснасць*
*Абрушылася на мяне*
*Дажджом зіхоткіх аскепкаў,*
*І, расправіўшы чорныя крылы,*
*Я ўзлятаю па-над новым светам.*
*Гэта мой свет, мая рэчаіснасць...*
*Я ўглядаюся ў аскепкі...*

**I**

*Па-за часам і прасторай*
*Ты ідзеш бясконцай дарогай*
*Да нябачнае мэты.*
*Ты ішоў учора,*
*Ідзеш сёння,*
*Будзеш ісці заўтра...*
*Твой шлях вечны,*
*Бо не мае канца.*

**II**

*Ты ўжо нікуды не ідзеш.*
*Ды і невядома, ці ішоў раней...*
*Твой свет рассыпаўся,*
*Нібы картачны домік,*
*Але ты гэтага не заўважыў.*
*Тваё жыццё — гэта толькі існаванне...*
*І яно вечнае, бо не мае канца.*

**III**

*Некалі ты быў...*
*Ты думаеш, але не існуеш,*
*Або існуеш, але не думаеш,*
*Ды табе гэта і не трэба:*
*Наперадзе — вечнасць.*

**IV**

*Калі рухнуў твой свет,*
*Ты зірнуў уверх*
*І згарэў на тло.*
*Ты жыў толькі імгненне,*
*Але ты жыў.*
*Заснуўшы на аскепкі свету,*
*Ты ўбачыў зоркі...*

**outro**

*Чатыры буйныя аскепкі...*
*Чатыры жыцці...*
*Чатыры лёсы...*
*Усе такія розныя.*
*А колькі яшчэ іншых...*

*Я знікаю,*
*Пакінуўшы на сталe*
*Аскепкі разбітага люстэрка.*

### *Павел ГАРАДНІЦКІ*



**"Гарэла сосна, палала..."**
Беларуская народная песня

***

*Прыляцелі —*
*Зноўку селі на арэлі,*
*Што былі сасной.*
*На балконе*
*Многа крошак хлебных,*
*Толькі птушак не відно.*
*Не тушыце, людзі, сосны —*
*Хай сабе гараць!*
*Можа быць, тады хоць*
*Птушкі на балкон*
*Мой прыляцяць.*

### *Аляксей РАЗМАХАЎ*



***

*Ты так далёка — рукой не дастаць.*
*Ты так высока, што сэнсу скакаць!*
*Можа, словы сказаць? Ды табе*
*не чуваць.*
*Нават, калі я буду крычаць.*
*Іншыя людзі могуць дастаць,*
*Да цябе дакрануцца ды паспытаць,*
*Бо ты, салодкая, сокам налітая,*
*Вельмі прыемная, — слўіка вялікая.*

### *Кацярына СІДАРУК*



**БУКЕТ**

*Прысвячаецца нам*

Вакол священнага агню збіралася ўсё племя. Прасілі продкаў і апекуноў роду, каб год быў багаты. І продкі прыходзілі да агню і садзіліся побач з жывымі. І апекуны роду пухкімі хвастамі гайдалі яркае полымя. І гучала песня, уплеценая ў мову леса і свяшчэннага агню. І род быў адзіным цэлым.

Ля сямейнага ачагу збіралася сям'я: патрыярх, маці, дзеці, унукі. І гучалі казкі, і трашчаў агонь. І кожны думаў пра сваё. І прыходзілі продкі на цяпло агню. І моўчкі сядзелі побач.

Пад цьмянай лямпачкай на кухні пад несціханае балбатанне тэлевізара ўвечары сядзелі два чалавекі. Кожны — адзін. І больш нікога. Круглы стол з маленечкай свечкай у цэнтры сабраў людзей. Людзей, якія прынеслі з сабой прывідаў. І яны дзеліцца уласнымі прывідамі адно з адным. І цяплеюць далоні, і святлеюць твары, і свецяцца вочы. І маленечкая свечка — даражэй за сонца.

І знікае дах; і зверху, усміхаючыся святлом зорак, глядзяць апекуны, як і некалі, памахваючы пухкімі хвастамі...

***Нейкі час таму з Балгарыі ад тамтэйшых літаратараў мне перадалі кнігу вядомага пісьменніка Антона Дончава — гістарычны раман "Час памежны" ("Време разделно") — пра адзін з драматычных перыядаў у гісторыі краіны. Неўзабаве мне патэлефанаваў з Сафіі пасол Беларусі ў Балгарыі, выказаўшы зацікаўленасць нашай грамадскасці ў перакладзе твора балгарскага пісьменніка на беларускую мову. Падахвочаны, я ўзяўся за працу, і, карыстаючыся выпадкам, хачу пазнаёміць чытачоў з першымі вынікамі. Хачу падкрэсліць, што для разумення архітэктонікі твора важная прадмова да яго.***

Гэтыя двое стаялі вышэй ад нас, і трава закрывала ад нашых вачэй магілу, якая, напэўна, была перад імі.

Адзін быў такі мажны і шыракаплечы, што не заўважаўся ягоны высокі рост. Чорныя валасы перахопленыя на лобе раменьчыкам, спадалі на плечы, кароткая чорная барада абрамляла твар. На ім была цёмна-чырвоная, да каленяў, перавязаная на грудзях адзежына. З-пад апранахі віднеліся манжэты яго белай кашулі, з чырвонай вышыўкай на рукавах. Падпярэзаны быў шырокім сялянскім рэменем — сялянам, за які быў заткнуты нож...

***Антон ДОНЧАЎ***

# ЧАС ПАМЕЖНЫ

## Урыўкі з гістарычнага рамана

### Прадмова

У гэтай кнізе сабраныя і ўпарадкаваныя нататкі дзвюх асобаў — святагорскага манаха, званага папом Алігоркам, і французскага двараніна, узятага ў палон пад Кандыяй і прыняўшага іслам, званага Венецыянцам. Абодва сучаснікі апісваюць адну і тую ж падзею — разарэнне і прымусовы перавод у мусульманства жыхароў радопскай даліны Эліндзена ўлетку 1668 года. Поп Алігорка глядзеў на гэта з боку радопскіх балгараў, Венецыянец — з боку туркаў. Шматкроць абодва апісваюць адзін і той жа выпадак, і ясна відно, як розныя пункты погляду і рознае асвятленне змяняюць рысы падзеі.

Абодва рукапісы перакладзены і перапрацаваныя. Нататкія папа Алігоркі выкананы на дзіўнаватай сумесі царкоўнаславянскай кніжнай мовы і радопскай гаворкі. Венецыянец пісаў на французскай.

Мэта перапрацоўкі была ў тым, каб два складнікі кнігі зблізіць па духу і мове, каб так рэзка не адчувалася двайное аўтарства.

Перад кожным урыўкам з летапісу папа Алігоркі пададзены некалькі радкоў з народнай песні, таксама знойдзеных у яго нататках.

### Урывак першы

Караібрагім выехаў на перавал і спыніў каня. У яго пад нагамі прасціралася даліна.

Справа ад нас абрывалася прорва з чырванаватымі, быццам іржавымі скаламі, а на дне ў яе раслі елкі. І самыя высокія дрэвы не дасягалі нават траціны каменнай сцяны. Нахіліўшыся з каня, ён убачыў у паветры двух арлоў.

Насупроць, на адлегласці многіх кіламетраў, узвышаўся другі схіл гор, сіне-чорны ад хваёвых лясоў. Там толькі палоска снегу раздзяляла чорныя лясы ад шэрага неба, а іх падножжа раствbooралася ў імгле.

За Караібрагімам і мною спыніліся мулы двух хаджы[1]: шэйха Шабана Шабіла — аднарукага, і Сулфікара Сафты — тоўстага.

— Ці тут гэта? — шэптам запытаўся тоўсты.

Караібрагім і не павярнуўся, каб адказаць яму. Тады я адарваў пагляд ад гор перада мной і ўбачыў ягоны твар. Прыбылі, значыць.

Далёка ўнізе, на дне даліны, цякла рака, што паволі ўздымалася да грэбеня гары па меры таго, як аддалялася ад нас, а два крутыя схілы гары набліжаліся адзін да аднаго. Ускрай ракі віднеліся пабудовы трох сёлаў, кожнае з якіх месцілася ўсё вышэй і далей. Яны былі падобныя на згрувашчанне скалаў, бо дамы былі збудаваныя з каменя і накрытыя каменнымі плітамі. Зямля на невялікіх апрацаваных палетках светлая, з плямамі цёмных мясцін, якія расплываліся ценямі аблокаў.

Усё наўкола было зялёнае і чорнае ад лясоў. Яны ўздымаліся да самых вяршыняў і зазубрывалі дробнымі вострымі зубцамі абрысы гор...

Ззаду, ад доўгай вераніцы вершнікаў, даносіліся галасы, але яны не парушалі навакольнага спакою, як не разварушыла б глыбіні вялікага возера кінутая ў яго жменя каменьчыкаў.

Караібрагім усё глядзеў у даліну.

Сонца на момант паказалася на самым аснежаным грэбені гары насупраць і асвяціла Караібрагімаў твар. Тады я адчуў, што горы жывуць, і іх трапятанне пранізала мяне, як нечаканы мароз.

За Караібрагімам узвышалася скала. Па ёй сцякала вада. Тонкі празрысты струмень ахутваў скалу шкляной вуаллю. А калі засвяціла сонца, скала пачала дрыжаць безліччу дробных блікаў, нібы задрыжалі ўсе горы... Караібрагімаў твар быў нерухомы і засяроджаны пасярод ззяння ўзварушаных гор...

Мы былі ў цэнтры Радопаў. Два дні мы дабіраліся сюды і сама меней яшчэ два давядзецца быць у дарозе, каб дабрацца да вяршынь тых празрыстых гор, што паўставалі перад намі.

Усе вершнікі з атрада — Караібрагім, я, два хаджы, дваццаць спахіяў[2] і сто конных збраяносцаў — сышлі з коней і ўкленчылі на чырвоных раскіданых плітах старажытнага рымскага шляху, каб узнесці хвалу алаху вячэрняй малітвай. І як толькі аднарукі хаджа падаў голас, над гарамі разнеслася рэха ўдараў звона. Недзе ў лясах быў манастыр...

Плач нарастаў у маіх грудзях, і я ніжэй схіліў галаву, пакуль мае вусны паўтаралі магаметанскую малітву. Ні насмешкі, ні адчай, ні пакора не маглі выкараніць маю старую веру...

Караібрагім выпрастаўся і ціха падсвіснуў свайму каню. Арабскі жарабок прыкленчыў. Караібрагім пераступіў праз сядло, і конь без намагання ўстаў, адкінуўшы назад сваю высакародную галаву...

Караібрагім выпрастаўся і ціха падсвіснуў свайму каню. Арабскі жарабок прыкленчыў. Караібрагім пераступіў праз сядло, і конь без намагання ўстаў, адкінуўшы назад сваю высакародную галаву...

Атрад пачаў спускацца ў даліну. Сонца зайшло, але дзень у гарах не адступаў.

— Трэба ў каго-небудзь распытацца, — зноў азваўся тоўсты хаджа.

Наш праваднік збег яшчэ ўчора.

Злева, ад стромага схілу, пачуліся гукі званочка. Дзве дробныя рыжыя кароўкі пасвіліся на жоўтай паляне над скаламі, а каля іх, укленчыўшы, сядзеў малы пастушок і глядзеў зверху на нас.

— Загадай яму спусціцца, — звярнуўся да мяне па-турэцку Караібрагім.

— Злазь! — крыкнуў я.

Пастушок дастаў аднекуль доўгую жалейку і зайграў.

— Злазь! — гукнуў я зноў.

Хаджа вылаяўся. Караібрагім сунуў руку ў адну з перакідных торбаў справа ад сядла і выхапіў пісталю.

Пастушок устаў, свіснуў кароўкам і сігануў угору па жоўтай паляне. Рыжанькія кароўкі беглі за ім з падскокам, нібы козы, іх званочкі дзынкалі часценька, пастушок смяяўся.

Караібрагім сагнуў левую руку ў локці, узняў яе перад грудзямі і апусціў на яе ладоню правую з пістоляй.

Доўга ўцякаў пастушок пад прыцэлам, пакуль не знік за высокімі елкамі. Караібрагім апусціў сваю пісталю. З лесу далятаў смех пастушка, званчэйшы за званочкі кароў.

— Чаму не страляў, ага[3]? — запытаўся тоўсты хаджа.

Караібрагім не адказаў, загледзеўшыся ў камяні пад капытамі каня...

Прорвы справа не стала відно, дарога ўцягнулася ў лес, потым выйшла на адкрытую прастору. Справа і злева прасціраліся нахіленыя паляны. Справа на паляне былі ўкапаныя ў зямлю велізарныя каменныя крыжы, некаторыя вышэй за чалавечы рост. Яны былі абабітыя, размытыя, у большасці паваленыя на зямлю... Адзін крыж, непадалёк ад дарогі, быў нядаўна разбіты, дык на зломе было відаць, што гэта камень — белы пясчанік, светлы, нечаканы, без адзінай плямы. Ніжэй ад старажытных каменных крыжоў бялелі драўляныя крыжы і зруйнаваныя помнікі. Там стаялі дзве выпрастаныя постаці. Калі мы наблізіліся, то ўбачылі, што адзін з іх трымае ў руках чалавечы чэрап.

Так я ўпершыню сустрэўся з Манолам.

Другі быў святар альбо манах са светлымі доўгімі валасамі, у доўгай расе — валасы выбеленыя, ды проста белыя, а раса сшэрхла, а на плячах ад сонца і дажджоў проста пазелянела.

Абодва былі без шапак на галовах.

У канцы паляны, над дарогай, выскачылі чатыры ці пяць велізарныя аўчарскія сабакі, калматыя як мядзведзі. Калі мы параўняліся з аўчаром і папом, Караібрагім спыніў свайго каня. Абодва пазіралі на нас моўчкі, зверху, паколькі стаялі вышэй за нас, а чорнабароды ўсё трымаў у руках белую мярцвячую галаву перад грудзьмі.

Сабакі глуха, пагражальна загырчэлі. Чорнабароды ўзняў руку і яны палеглі на дарозе, паклаўшы галовы на траву.

Караібрагім кіўнуў мне. Я нічога не сказаў, а рукой падаў знак нашым людзям сысці на дарогу.

Чорнабароды крыху нахіліўся, ягоныя рукі схаваліся ў траве. Калі выпрастаўся, трымаў футравую шапку ў руках. Ён рушыў праз могілкі, паступова аддаляючыся ад нас, а поп крочыў услед за ім. Ступіўшы на дарогу, чорнабароды надзеў на галаву шапку і рушыў да нас. Ён быў у царвулях[4], а поп ішоў босы.

Яны спыніліся перад коньмі.

Караібрагім і Манол угледзеліся адзін ў аднаго. Цяпер Караібрагім глядзеў зверху, а Манол — знізу. Ведаў, што Караібрагім злосны, хоць з твару па ім нічога відаць не было. Аўчар не павінен быў стаяць перад турэцкім панам у шапцы, бо шапка на галаве ёсць знак свабоды і годнасці, а раю[5] належыць стаяць пакорліва з непакрытай галавой.

— Спытай, ці гаворыць ён па-турэцку, — мовіў Караібрагім.

Чалавек адмоўна пахітаў галавой, — ён зразумеў Караібрагімавы словы — але ці сапраўды не ведаў ці не хацеў гаварыць па-турэцку.

— Спытайся ў яго, як называюцца гэтыя сёлы, — зноў загаварыў Караібрагім.

Чалавек маўчаў, і я паўтарыў пытанне на балгарскай мове.

— Прасойна.

— А другое?

— Заград.

— А трэцяе?

— Подвіс.

Караібрагім і Манол глядзелі адзін аднаму ў вочы. Раз зірнуўшы на мяне, Манол больш на мяне не глядзеў. Узялі мяне злосць і крыўда, бо я зразумеў, што ён мяне ацаніў і больш не хоча займацца мною, як быццам мяне і няма.

— А вунь той белы дом?

— Канак[6] Сулеймана-агі, — адказаў Манол.

— Як называецца праход, па якім мы перавалілі гару?

— Мілы гасподзь.

Я паглядаў то на аднаго, то на другога. У Караібрагіма былі прымружаныя, праніклівыя вочы, ён як быццам увесь час прыцэльваўся. Манолаў пагляд быў нібыта рука, што абмацвае цябе...

Я адчуваў, што гнеў у Караібрагіма нарастае. Яму сустрэўся моцны, цяжкі чалавек — было ўражанне, што аўчар ёсць як вялікае дрэва і глыбокая вада — патрэбна бура, каб яго расхістаць...

З таго часу, як я трапіў у палон, жахлівыя гадзіны, праведзеныя на караблі, прымусілі мяне быць ад усяго ўбаку і толькі назіраць. Не даваў нічаму пранікнуць у маё сэрца. Але цяпер адчуў нейкае хваляванне, зразумеўшы, што гэтыя двое мужоў сутыкнуцца.

Караібрагім глядзеў на Манола. Нарэшце сунуў руку сабе за пояс, дастаў грошы — я не бачыў, а толькі адчуў — і кінуў іх пад ногі Манолу. Серабро стоена дзынкнула. Караібрагім крыўдзіў яго.

Аўчар не нагнуўся падняць грошы.

Караібрагім пусціў каня наперад. Аўчар не сышоў з дарогі. Конь надвесіў над ім галаву. Чуваць было, як гыркаюць сабакі.

—Хадзем.

Азваўся поп, які да гэтага маўчаў.

Аўчар адышоўся ўбок, і Караібрагім праехаў.

Толькі тады я глянуў на папа. Ягоныя блакітныя вочы ззялі ў яго на твары. Выглядаў ён яшчэ маладым, поўным радасці да свету.

Я праехаў на кані паўз яго, і ён заплюшчыў вочы, магчыма, ад палёгкі. Святло ў яго твары згасла, і падобна таму, як сонца хаваецца за гарамі і лепш бачацца на схілах гор лясы, датуль замглёныя праменістым покрывам, гэтак і я разгледзеў ягоны твар. Запалыя вачніцы, каля вачэй маршчыны, патрэсканая, нібы абгарэлая скура, бледныя вусны пакутніка. Поп быў ужо немалады і стомлены чалавек...

Павярнуўшыся назад, я пачуў, што Караібрагім ціха кажа нешта аднарукаму хаджы, і расчуў словы: "Потым злаймайце крыжы..."

Тады я зразумеў, чаго Караібрагім са сваім конным атрадам рушыў праз дзікія горы — ён пайшоў, каб абярнуць жыхароў гэтай даліны ў рэчышча нашай прававернай веры.

### Урывак другі

*Звечара прайшлі тут, аўчарка,*
*тры вярыгі з рабамі.*
*Першы ланцуг, аўчарка,*
*быў з маладых дзяўчатак.*
*Другі ж ланцуг, аўчарка,*
*быў з маладых нявестаў.*
*Трэці ж ланцуг, аўчарка,*
*быў з маладых юнакаў.*

У год 1668 ад нараджэння Хрыста Бога нашага, праз два гады як вялікі візір[7] Ахмед Кюпрулі аблажыў Кандыю, у месяц травень, адбылося вялікае паланенне свяшчэнных лясоў, названых Радопамі. А ў папярэднія гады людзі бачылі розныя знакі, якія па сваёй слепаце мы не маглі разгадаць.

Чорны цень зацямніў месяц, і ўсе падумалі, што надыходзіць заход паўмесяца.

Ударыў град, ды такі, што кожная градзіна была велічынёй з кулак дарослага мужчыны, гінулі нябесныя птушкі на ляту, дзікія звяры, што хаваліся ў лясах.

Дрыготкі ўстрэслі зямлю і зруйнавалі гарады і сёлы, разбурылі і Масул, а агромністыя хвалі патапілі караблі ў прыстанях.

Калі загарэўся мадзьярскі горад Офен, дык расплавіліся нават гарматы на сценах і загінулі рабы ў сваіх келлях, знайшлі згарэлых шаснаццаць пар рабоў-хрысціян, скаваных па двое, прытуленыя, яны сустрэлі смерць у агні.

Той ранняй вясной я выйшаў са Святагорскага манастыра з торбай перапісаных свяшчэнных кніг, каб ісці разам з аўчарамі, якія вярталіся пасля зімоўкі на пашах каля Белага мора ў Радопы. Ягняты ўжо акрэплі і гулялі каля сваіх матак, авечкі былі астрыжаныя і воўна прададзеная.

У сяле Подвіс жыў чалавек па імені Манол. Пасля імя кожнага называюць імя яго бацькі, бо імя ягонага бацькі звязвае яго з іншымі людзьмі, тады вядома, чыя ў яго кроў і які ў яго корань. Аднак Манол не ведаў імя ні бацькі, ні маці сваёй. Ён быў першым у сваім родзе. Першым з вялікага роду, хоць і без вялікіх каранёў, і калі ўнук ягоны казаў, што ён Манол, Мамчылаў сын сына Манола, то гэта было вялікае імя.

Цягнуліся тры вярыгі няшчасных рабоў. У першай вярызе — маладыя дзяўчаткі, у другой — бязвусыя хлопцы, у трэцяй — пад вянец нявесты. Манолава маці — ніхто не ведае імя яе — насіла на руках Манола, а як яго называла — і гэтага ніхто не ведае. І як скончылася ў яе малако, ды і сілай знемаглася, развязала стракаты фартух і падвесіла калыханку між дзвюх хваінак. І паклала ў калыханку сваё немаўля — калі ветрык павее, дык залюляе яго, дожджык пойдзе то абмые яго, калі сарна прабяжыць, яна яго накорміць.

Сарна не прабегла, але падышоў Караманол, гайдук[8]. Ужо дзевяць гадоў мінула, як туркі забралі яго жонку і забілі яго сыноў, Караманол перакрыў два праходы — Рожан і Ешак Кулак, — і не даваў нават мышы праскочыць. Ніхто не ведаў, дзе начуе і дзе зімуе, таму што хадзіў заўсёды адзін, з адной стрэльбай і дзвюма пістолямі. На дзевяты год ягоная злосць перайшла межы, і ён пачаў забіваць кожнага, хто сустрэнецца... Праследавалі яго тры баі і два султаны. Тады ўзняліся на яго і вандроўныя пастухі, і ён зразумеў, што надыходзіць яму канец.

Караманол узяў немаўля з калыханкі і пайшоў з ім праз лясы, а ўслед за ім ішлі тры атрады карнікаў, якія пакляліся, што іх бароды не ўбачаць ляза брытвы, пакуль не схопяць яго. Караманол заходзіў у сёлы, шукаў жанчыну з немаўляткам, даваў ёй,

(Працяг на стр. 14-15)

# ЧАСОПІСЫ РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЙ УСТАНОВЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

## «ПОЛЫМЯ» № 9—10

У 9—10 нумарах "Полымя" пачало друкаваць новы раман Міколы Кусянкова "Хмель каля вольхі". Зрэшты твор не зусім новы, гэта працяг раманаў: "Явар з калінаю" і "Арляня і зязюля". Тыя ж героі: Гаркуша, ягоная жонка, дачка, другі муж дачкі — Віталь Айчанаш і іншыя. Толькі цяпер на першым плане лёс унука Гаркушы — Валянціна Мохарава, лёс хлопца, які сваім жыццём вымушаны разлічвацца за чужыя грахі. Маецца на ўвазе Афганістан і Чарнобыль. Адчайнае каханне штурхае Валянціна Мохарава на неардынарныя, нават супрацьзаконныя ўчынкі. Толькі ён парушае чалавечыя законы, а не боскія, таму чытач суперажывае хлопцу і наперад прабачае ўсё кепскае, жадае яму большага чым дало жыццё. У Мінску на Востраве слёз на шыльдзе складзены спіс усіх загінуўшых у Афганістане. Аўтар (ён жа адзін з герояў рамана) прыйшоў пакланіцца Мохараву, якога ведаў з маленства. Прайшоў — а ў спісе яго няма! Няма салдата, на якога маці атрымала пахавальную. З гэтага моманту пачынаюць разгортвацца падзеі.

"Горкую лілею пакашу" — так назвала Святлана Лобач свае захапляльныя навелы.

Трошкі больш года таму ў калідорах "Полымя" чуўся смех Адольфа Варановіча, а сёння ў рубрыцы "Спадчына" мы прапаноўваем апошнія творы пісьменніка пад агульнай назвай "З незавершанага".

Свае новыя вершы прапанавалі Алесь Бадак, Анатоль Дэбіш, Браніслаў Спрынчан.

Асобна трэба адзначыць юбілейныя матэрыялы Максіма Танка. У часопісе змешчаны не толькі нідзе да гэтага часу недрукаваныя вершы славутага паэта, але і апавяданні. Шмат працы пакладзена дзеля таго, каб знайсці гэтыя творы і супрацоўнікамі рэдакцыі, і Інстытутам літаратуры НАН РБ.

Друкуюцца матэрыялы да 120-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Серафім Андраюк у артыкуле "Ад роднай зямлі" дае разгорнуты творчы партрэт Івана Пташнікава, 70-гадовы юбілей якога таксама адзначаны ў гэтым годзе. Здаецца чытаем, ведаем Івана Пташнікава, але ж Серафім Андраюк дае свой, зусім новы, погляд на творчасць пісьменніка.

У раздзеле "Публіцыстыка" парламентарыі РБ Леанід Земляков і Юрый Марозаў прапанавалі чытачу артыкул "Дзяржава. Рэлігія. Закон.".

Яўген Гарадніцкі разглядае творчасць Вячаслава Рагойшы "Творы літаратуры ў тэрмінах" кніга выдадзена ў 2001 годзе ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя". Той, хто цікавіцца беларускім літаратуразнаўствам і тымі зменамі ў літаратуры знойдзе ў гэтай кнізе добрага дарадцу і шмат якія адказы.

Алесь Марціновіч прапануе чытачу крытычны матэрыял на кнігу лірыкі Віктара Гардзея "Межань".

*Шалеюць сполахі над нівай*
*з краю.*
*Цякуць хвіліны, каб застацца*
*ў зерні.*
*Іду ў сутонь і проста назіраю*
*Нябесных сіл таемны*
*бляск вячэрні.*

*Адтуль, з вякоў, чуваць,*
*як млеюць жорны.*
*Хай будзе хлеб! І чыстыя*
*крыніцы!*
*Відаць, таму начамі ў жнівень*
*зорны*
*Аж давідна трывожацца*
*зарніцы.*

Гэтая кніга прадстаўлена на атрыманне Дзяржаўнай прэміі. І мы далучаем свае словы на карысць гэтага таленавітага, яскрава-адметнага паэта.

Напэўна не знойдзецца чалавека, які б не знайшоў у прапанаваным нумары часопіса "Полымя" нешта новае, нешта для сябе. І гэта так. Часопіс варты ўвагі.

Чытайце. Выпісвайце. Пішыце. **Наш адрас: Мінск, вул. Захарава, 19, часопіс "Полымя". Тэлефон 284-80-12.**

**Н. К.**

## ДРУГАЯ «МАЛАДОСЦЬ»

Пабачыў свет чарговы (спараны) 9-10 нумар часопіса "Маладосць". Нечакана ён стаў прычынай для расчаравання яго скептыкаў і апанентаў. З прыходам на пасаду галоўнага рэдактара таленавітай паэткі Раісы Баравіковай выданне не толькі не зачахла, як прадказвалі шматлікія "апазіцыянеры ад літаратуры", а якраз, аснаваўшыся на новай "глебе", набірае заўважны творчы рост. Часопіс пашырэў не толькі ў сэнсе фармату і аб'ёму, але і змяніў свой літаратурна-мастацкі ракурс. І калі ўнутраны змест прачытваецца і пазнаецца па агульным "настроі" сучаснага нацыянальнага літпрацэсу (ён "аднатонны", як у дзяржаўных выданнях, так і ў незалежных: адна і тая ж іранічная "прастрацыя" поглядаў на ўласны і пазамежны свет, адны і тыя ж, падчас запазычаныя, фармалістычныя ці стылістычныя спробы паддобрывацца да чытача альбо, зрэдку — бо адкуль?! — інтэлектуальныя "красворды" "аля Умбэрта Эка"), то знешнія выгляд — каляровае афармленне, якасць паперы, дызайн — адназначна набылі жаноцкае завабнае какецтва і ўстойлівую мужчынскую прагматычнасць...

Аказалася, што таленавітых аўтараў у нашай краіне больш, чым некаторыя думалі. І шмат каму з іх не так ужо й важна, дзе друкаваць свой літаратурны тэкст, калі ён з густам рэдагуецца, не падлягае цэнзуры і забяспечваецца ганарарам — адэкватным калі не мастацкім якасцям твора, то хоць бы сённяшняму ўзроўню жыцця. (Наколькі мне вядома, у рэдакцыйным партфелі часопіса "Маладосць" на будучы год ужо ёсць альбо замоўленыя ў нашых вядомых паэтаў, пісьменнікаў, і крытыкаў, якія аднача сна супрацоўнічаюць і з незалежнымі выданнямі, новыя літаратурныя творы.) І падобная тэндэнцыя, мне думаецца, толькі на карысць агульнаму развіццю нацыянальнага літаратурнага працэсу ў краіне. Гэта ў цэлым спрыяе і адкрыццю новых маладых талентаў. Левы творца ці правы — ён усё адно незалежны. Калі ён творца. Магчыма толькі ў "Nihil"і ён можа дазволіць сабе быць аніякім... За апошнія чатыры месяцы я займеў толькі па адным нумары недзяржаўных часопісаў "ARCHE" і "ДЗЕЯСЛОЎ" (дакляруюць, што выдадуць яшчэ — калі?!)... Цэлае лета і восень абяцаюць, што з'явіцца яшчэ адно абноўленае "полымя" (куды дзенемся, пачакаем)... Аднак паступова, хоць пакуль і няспешна, выдаюцца ў свет дзяржаўныя часопісы...

Напрошваецца пытанне: куды пайсці аўтару альбо "с кем вы мастера культуры"? Вядома, з культурай. Для сябе — лакальна — я песіміст. Для чалавецтва — глабальна — аптыміст. Таму ўся сённяшняя палітычная траскатня (прашу не параўноўваць яе з барацьбой дабра і зла), як дэцыбельны рэп у суботнім парку Чэлюскінцаў, куды ўсё рвецца мая дачка-ліцэістка, але "толькі праз мой труп" туды не адважваецца пераступіць... Гэтак не маю адвагі і я адасобіцца ад людзей мыслячых. Сярод нас дастаткова палітыкаў і палітыканаў. І, на жаль, так мала творцаў. Можна "ўзяць тэлеграф, банк і дом друку", але як забраць боскі талент у чалавека?! І ўвогуле — што рабіць з такім чалавекам і куды яго падзець?!

Мажліва яму трэба даць часопіс, які б ён хацеў чытаць і ў якім меў магчымасць друкавацца...

Сёння, як мне падалося, я натрапіў на такое выданне, нібы наноў зазірнуў у сваю "МАЛАДОСЦЬ"...

Чаго толькі каштуе перачытаны і прысамочана ўспомнены мной "Адзін лапаць, адзін чунь" Міхася Стральцова! (Часопіс вырашыў, час ад часу, у рубрыках "Пазакласнае чытанне" і "Сучасная літаратура" практыкаваць сваім маладым чытачам своеасаблівыя "напаміны" яшчэ не замшэлай беларускай класікі. Апраўданы падобны шлях ці не, пакажа час. У гэтым жа канкрэтным, пробным, нумары, здаецца, "старыя коні баразны не псавалі", вядома, залічваючы хутчэй да "класікаў", чым да "старых" Андрэя Федарэнку з яго "Афганскай шкатулкай", Алеся Наварыча з аповесцю "Пані з сабачкам, альбо Пад кветкамі магнолій" ды Віктара Шніпа з ужо апрабіраванай на слухачах нізкай пост-рамантычных вершаў.)

Найцікавейшае са свежаспечанага чытва — безумоўна, напаўпалахлівы, а насамрэч па-мастацку "гжэчны" аповед "Тапіць дзяўчынак тут дазволена" ўжо вядомай і таленавітай барысаўчанкі Алены Брава (дзякуй Юры Станкевічу за своечасовае зямляцкае адкрыццё). У наступным годзе часопіс рыхтуе да друку яе новую аповесць.

Ёсць і новыя паэтычныя тэксты: Ігара Клепікава, Святланы Явар і Таццяны Будовіч (сапраўдным прыхільнікам паэзіі да гэтай паэткі раю прыглядзецца больш пільна).

Выдрукаваныя літаратурныя імпрэсіі Марыны Цімашэнкі, арыгінальнае эсэ Алеся Савіцкага пра неардынарнае жыццё і творчасць "караля" нашай сучаснай навелістыкі Івана Пташнікава, "Геапаэтычнае эсэ" пра "беларускія літарацкія крыўды" эпатажнага і заўжды нечаканага Адама Глобуса, мемуарныя згадкі Міколы Аўрамчыка пра "дасціпныя розыгрышы" вядомага драматурга Андрэя Макаёнка, адказы літаратараў на анкету "Маладосці" пра "стварэнне кніг" і яшчэ шмат якіх разнастайных літаратурных матэрыялаў, цікавых шырокаму колу чытачоў (іх аўтары: Людміла Грамыка, Уладзімір Саламаха, Анатоль Бутэвіч, Вольга Мешчаракова і Алена Красоўская).

Канчаецца ж нумар "непіўграмамі" Эдуарда Акуліна, прачытаўшы якія, мне падалося, што ўсё ж — варта было б..., а то напісалася "надта многа, цвяроза і завумна"...

У адрозненне ад пачатку нумара, яго заканчэнне падалося праставатым. Але гэта, як на чый густ...

Адным словам, "Маладосць" не пастарэла. Дудкі! З Раісай Баравіковай толькі памаладзець можна... А то! Купі — будзеш мець, а лепш — падпішыся. Інакш усё жыццё давядзецца чытаць "Nihil" альбо "Навінкі"...

Зробіш правільны выбар — будзеш разумным і, можа, нават багатым. Да сустрэчы ў лістападзе!

**ЛеГал**

## «НЁМАН» № 9—10

Выйшаў з друку чарговы, здвоены нумар "Нёмана".

Часопіс святочна адкрывае публікацыя Дзяржаўнага Гімна Рэспублікі Беларусь (Словы М. Клімковіча, У. Карызны, музыка Н. Сакалоўскага). Мастацкая проза ў часопісе прадстаўлена раманам рускага пісьменніка Аляксандра Праханава "Господин Гексаген" (працяг) і апавяданнямі народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі "Хлопцы с одной улицы" і Яўгена Росцікава — "Голливудский фейерверк". З цікавасцю пазнаёміцца чытач і з паэтычнымі творамі гэтага нумара. У прыватнасці, з падборкай вершаў Андрэя Скарынкіна. Упершыню друкуюцца на старонках часопіса вершы Вольгі Патрый, чалавека няпростага лёсу, спявачкі, таленавітай выканаўцы ўласных песень.

Пад рубрыкай "Слово о друге" змешчаны ўспаміны Міколы Аўрамчыка "Щедрость поэзии" — да 90-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Увогуле ж публіцыстыка часопіса "Нёман" даволі ёмістая і змястоўная, трэба чакаць, прыцягне да сябе ўвагу і нататкамі выдатнага кінарэжысёра Міхаіла Пташука "И жизнь, и слёзы..." і артыкулам Яўгена Антонава "Русскоязычный говорун, или Дмитрий Рогозин как зеркало кремлевской власти".

Пэўную цікавасць выкліча прафесійная размова пра творчасць Міколы Мятліцкага з нагоды выхаду ў свет яго новай кнігі паэзіі "Жыцця глыбінныя віры". Нельга не далучыцца да слоў рэцэнзента Наталлі Дзянісавай, якая сцвярджае, што творы М. Мятліцкага адлюстроўваюць усю паўнату чалавечага жыцця.

**Рэдакцыя часопіса "Нёман"**


ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8153**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-4404**
**літаратурнага жыцця — 284-4404**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-4404**
**паэзіі і прозы — 284-4404**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8153**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-4991**
**Тэл./факс — 284-8525**





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1637
Нумар падпісаны ў друк 24. 10. 2002 г. у 15.00

Рэгістрацыйнае Пасведчанне № 715

Заказ 2470

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12